# Звычайная гісторыя стварэння незвычайнай энцыклапедыі

Дарагі сябра!

Гэтая кніга створаная для тых, хто ведае алфавіт і хто ўпэўнены, што нічога звычайнага насамрэч не існуе. Мы не сумняёмся, што яна створаная для цябе. А калі ты яшчэ любіш музыку, казкі і адну з найпрыгажэйшых моваў у свеце — беларускую, дык мы зусім не памылімся, калі скажам, што гэтая кніга будзе шчаслівая жыць у тваёй хаце.

Чаму варта ведаць алфавіт, запытаешся ты, наш сябра. Не толькі таму, што энцыклапедыі ствараюцца паводле алфавіту ад А да Я. А яшчэ і таму, што ты, любы дружа, не можаш не быць маленькім разумнікам. А значыць, заўважыш, што нашая незвычайная энцыклапедыя не ад А да Я, як усе энцыклапедыі, а ад А да Ш. Незвычайная яна, безумоўна, не гэтым. Так здарылася, што сярод беларускіх народных інструментаў няма інструмента на літару Я. Але ж затое шархуны звіняць так, што і апошняя літара пачуе.

Калі ты ведаеш алфавіт і ўмееш чытаць, дык можаш адразу брацца за кнігу. І неабавязкова гэта рабіць па парадку: у энцыклапедыі можна пачынаць з любога артыкула. Калі ж у цябе ёсць брацік альбо сястрычка, якія не ўмеюць чытаць, пачытай ім яе. Магчыма, кніга ім так спадабаецца, што яны праз яе спасцігнуць гэткую неабходную навуку — навуку чытання.

Артыкул пра кожны музычны інструмент складаецца з казачнай гісторыі (але ўсе звесткі пра інструмент цалкам праўдзівыя) і верша. Напрыканцы кожнага артыкула ёсць інфармацыя для вундэркінда і пытанне для маленькага разумніка. А вось ці слушна ты адказаў,

можна праверыць напрыканцы самой энцыклапедыі.

Як маленькі разумнік, ты, дарагі сябра, неаднойчы задаваўся пытаннем: якім чынам ствараюцца кнігі?

Мы, аўтары незвычайнай энцыклапедыі, апавядзём, як стварылася менавіта яна. У яе стварэнні няма нічога незвычайнага. І няма нічога звычайнага, бо ты ж ведаеш, што нічога звычайнага не існуе.

Калісьці ў адным выдавецтве, якое і цяпер называецца «Беларуская Энцыклапедыя», працавала цётка Аксана. Яна была пісьменніцай і надта любіла слухаць беларускую музыку. Неўзабаве ў выдавецтва прыйшоў працаваць дзядзька Яраш, музыка, гісторык, калекцыянер беларускіх народных інструментаў. Ну вось, скажы, маленькі разумнік, як ім было не пакахаць адно аднаго? Яны пабраліся шлюбам. Але на гэтым казка не скончылася. У іх нарадзілася дачушка Альжбэта, якая напачатку вымавіла слова «мама», пасля — «тата». А трэцім яе словам было «дуда». І калі ты, наш сябра-разумнік, пачытаеш пра гэты інструмент, зразумееш, што ён заслугоўвае таго, каб усе беларусы з маленства ведалі яго. Вядома, лёгка Альжбэце, скажаш ты — у яе тата і збірае беларускія народныя інструменты, і грае на іх. Так, ёй сапраўды лёгка! У яе нават казачная хросная ёсць — Алена Масла, якая піша сапраўдныя казкі і вельмі любіць усіх дзяцей. Вось яна і заўважыла, што няма ў маленькіх разумнікаў кнігі пра беларускія музычныя інструменты. А мы, цётка Аксана і дзядзька Яраш, прыдумалі стварыць «Незвычайную энцыклапедыю беларускіх народных інструментаў». Нам было гэта не цяжка, бо ўсё, пра што пісалі, мы любім.

*Аўтары Яраш Малішэўскі і Аксана Спрынчан*



# АКАРЫНА

Болей за сто пяцьдзесят гадоў таму ў Італіі, у мястэчку Бурдыё, нарадзілася дзіўнае гусяня. Яно ніяк не магло навучыцца казаць «га-га-га». А ўсе ж гусі толькі гэтак і кажуць: і шэрыя, і белыя, і малыя, і вялікія.

І хоць дзіўнае гусяня надта прыгожа спявала, не любілі яго ні сваякі, ні суседзі. Бо цяжка было прызнацца ў тым, што такі талент ім не дадзены. Толькі гаспадар Джузэпэ Данацы, майстар музычных інструментаў, вельмі любіў гусяня. Любіў і шкадаваў, што яно вельмі самотнае. Спрабаваў Джузэпэ зрабіць інструмент, які зможа размаўляць з малым птушанём. І ўсялякія пароды дрэваў шукаў, і струны спрабаваў да карпусоў рознай формы прыладаваць — але нічога не атрымлівалася. Ды вось аднойчы пабачыў майстар, што любіць спяваць гусяня побач з глінаю. Нахіліўся, узяў гліны, размяў у руках, і вы-

падкова атрымалася нешта падобнае да гусяняці. Зрабіў майстар у ім драўлянай палачкай дзесяць адтулінаў, восем з якіх знаходзіліся на спінцы, а дзве — на жывоціку, упрыгожыў светла-карычневай палівай, абпаліў у печы ды паспрабаваў зайграць. І адбыўся цуд — дзіўнае гусяня перастала быць самотным.

Інструмент Данацы назваў «акарына», што на італьянскай мове значыць «гусяня». І сталася так, што хутка акарыны разляцеліся па ўсёй Еўропе. І, канечне ж, прыляцелі ў Беларусь — зямлю, як казаў пісьменнік Уладзімір Караткевіч, пад белымі крыламі. Абжыліся ў нас, у адпаведнасці з беларускай традыцыяй набылі цыліндрычную форму.

І так прыйшліся даспадобы акарынам беларуская зямля і тутэйшыя музыкі, што ніякія краі іх болей не вабяць.

* * *

У мяне жыве цяпер
І ні рыба,
І ні звер:
Гусяня рудое,
Змагаецца
З нудою.

І яно хоць з Беларусі,
Продкі —
Італійцы-гусі.
Не «га-га»
Яно гагоча,
А спявае,
Што захоча.

Дакранаюся
Да дзюбы
Акарыны маёй
Любай.
Упрыгожвае
Жытло
І дае душы
Святло.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Акарына — музычны інструмент класа аэрафонаў віду глабулярных (шарападобных) флейтаў.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы думаеце, чаму майстар зрабіў у гліне менавіта дзесяць адтулінаў?








## БАРАБАН

Жыў-быў Музыка, і былі ў яго два простыя барабаны. Мелі яны драўляны корпус, з абодвух бакоў абцягнуты скураю. Была ў кожнага з барабанаў свая калатушка. І Музыка біў адною калатушкаю па адным барабане, а другою — па другім.

Здзіўляліся сябры Музыкі: «Навошта табе два барабаны? Прадай адзін, хоць грошы будуць».

Але Музыка казаў: «Барабаны хоць і простыя, але не аднолькавыя». І здзіўляўся, што ніхто не заўважае, што адзін барабан болей вясёлы, прыдатны для скокаў, а другі — болей баявы.

І вось нечакана прыйшлі жахлівыя часы: напалі на Беларусь ворагі. І ўсе, хто мог трымаць у руках зброю, пакінулі свае хаты, каб бараніць Радзіму. А Музыка не ўмеў страляць ды шабляю сячы. Таму ён узяў той барабан, што, як яму па-

давалася, болей баявы (нязручна ж ісці з двума барабанамі), і выправіўся на вайну.

У войску паспрабавалі Музыку замест барабана стрэльбу даць, але паглядзелі, што нічога ў яго не атрымліваецца, і пагадзіліся — няхай ужо гуляецца са сваім барабанам.

Вялізнае было войска ў ворага. Сталі беларусы ўжо і сумнявацца, што здолеюць перамагчы, але раптам пачулі надзвычай моцныя гукі. Чым болей яны нарасталі, тым болей смеласці надавалі змагарам. Кінуліся з новым запалам у бой беларусы. І дзякуючы Музыку і ягонаму барабану войска беларусаў перамагло ворагаў.

Тады вярнуліся абаронцы роднага краю да сваіх сем'яў. А ў Музыкі яшчэ не было сям'і, і вярнуўся ён да свайго другога барабана, што чакаў яго ў хаце на ўскрайку Лунінца.

А было гэта якраз на Каляды. Ну а як калядаваць без музыкі? І вырашылі ваяры-калядоўнікі ўзяць свайго Музыку. Узяў ён барабан — той, што болей вясёлы. І столькі накалядавалі тады, што потым тыдзень елі і пілі. Цешыліся і барабаны хвалілі.

* * *

А ці просты барабан,
А ці ён
Турэцкі,
Ты з душою барабань —
Не арэх жа
Грэцкі.

І не разаб'еш тады,
А душу раскрыліш.



Памагаў у час бяды,
Як гарматы вылі.

А як мы перамаглі,
Беларусы-воі,
І калядаваць змаглі
Барабаны
Ўволю.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Апрача іншых, існуе яшчэ турэцкі барабан. Да ягонага корпусу адмысловым шрубкам прымацаваная медная талерка. Другую талерку (часта меншую памерам) барабаншчык трымае левай рукой і б’е па замацаванай талерцы. А правай рукою, у якой калатушка, стукае па скуры барабана. Турэцкім жа барабан называецца з даўніх часоў. Тады беларускія майстры назіралі за турэцкімі капэламі, у якіх гралі на вялікіх барабанах і талерках, і вырашылі аб’яднаць іх у адзін інструмент.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы думаеце, просты ці турэцкі барабан мае большыя магчымасці?





## БАСЭТЛЯ, альбо БАСОЛЯ

У даўнейшыя часы недалёка ад Стоўбцаў жыў на беразе Нёмана асілак Басэтля. А на другім беразе жыў Музыка.

Басэтля быў велізарны, як дуб. Ён мог лёгка перакідваць з адной рукі на другую стопудовы камень, нібы невялікі мяч. Мог і раструшчыць камень, калі было патрэбна. А калі кідаў булаву, дык гудзела неба, нібы Пярун б'е. Сцішваўся Басэтля толькі тады, калі на другім беразе пачынаў граць на скрыпцы Музыка.

Слухаў-слухаў асілак чароўную музыку і сам захацеў навучыцца граць на скрыпцы. Пераплыў ён Нёман і папрасіў Музыку паказаць яму, як гэта рабіць. Той і паказаў, і расказаў, даў у рукі Басэтлі скрыпку. Але асілак таму ж і асілак, што вялікі. Не мог ён утрымаць маленькую скрыпачку. Нават пальцы ў яго былі большыя за смык.

Вярнуўся Басэтля на свой бераг. З роспачы патрушчыў нямала камянёў. А пасля ўсё ж узяў сябе ў рукі і пастанавіў выштукаваць інструмент адпаведны сабе. Зрабіў асілак корпус з елкі, а смык, каб быў болей цяжкім, з грабу. Тады напяў чатыры струны. Паклаў «скрыпку» на плячо, але бачыць — нязручна неяк. Паставіў Басэтля інструмент на зямлю і правёў смыкам.

Нізкі і моцны гук пераляцеў на другі бераг. Музыку нават падалося, што тамака карова зарыкала. Прыгледзеўся, а гэта асілак смыкам па вялізным інструменце водзіць. Узяў і Музыка сваю скрыпку ды распачаў граць разам з Басэтляй. Сабраліся тут хлопцы і дзяўчаты на абодвух берагах Нёмана і пусціліся ў скокі. Хараша!

А ў той час аднаго дзецюка маці паслала па соль. Вяртаючыся, ён не ўтрымаўся і далучыўся да скокаў. Танцаваў, скакаў, ажно соль высыпалася з ягонай торбачкі. Дзяўчыне, якая сказала яму пра гэта, ён адказаў: «Не да солі, як іграюць на басолі».

Вось так і замацаваліся за гэтым інструментам назвы «басэтля», ці «басоля».

* * *

А басэтля,
Ці басоля,
Моцна музыку
Падсоляць.
Гук адрывісты
І нізкі,
Басавіты,
Але блізкі.

Бо без солі
Анічога
Не з’ясі ты
Надта многа.
Смык яе
З цяжкога грабу,
Не зламаць
Кляшнёю
Крабу.
Хай вялікая
Басоля,
Ёй малой
Не трэба ролі.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Басэтля — струнны смычковы інструмент нізкага рэгістру, блізкі да віяланчэлі і кантрабаса.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы мяркуеце, у чым падабенства басэтлі і скрыпкі?





# БЕРАСЦЯНКА

У прыўкрасны вясновы дзень сустрэў Янка з Мінска шляхцянку Альдону з Берасця. Сустрэў і закахаўся. Ды і як было ў яе не закахацца — белыя косы, высокія бровы, вочы з агеньчыкам, а вусны такія, што і прысніць нельга.

Ды Альдона, ганарлівая шляхцянка, нават увагі на Янку не звярнула. Не звярнула, не заўважыла, як не заўважала і іншых хлопцаў. Бо прысніла яна неяк прарочы сон, што ейны жаніх будзе спяваць, як салавей. А тут нейкі Янка з Мінска. Яна з яго яшчэ і пакпіла: «У Мінску ўсё па-свінску, а ў Бярэсці ўсё на месцы».

Закаханы Янка вырашыў не здавацца. Задумаў ён прабрацца ў дом, дзе жыла Альдона і скрасці яе. Але вартавалі шляхцянку добра, бо не ў аднаго хлопца галава ад яе кругам ішла. Схапілі Янку і прывезлі ў лес, каб забіць. Ды не маглі не выканаць апошняга жадання хлопца — дазволіць пабыць

перад смерцю разам з маладою бярозаю.

Хуценька дастаў Янка схаваны нож, прарэзаў выемку ў невялікай драўлянай калодачцы, зняў з бярозкі вузкую стужачку, зачысціў яе і ўштукаваў у выемку. А пасля прыклаў яе да рота, і нарадзіўся яскравы светлы гук. І яшчэ болей яскравы і светлы, і яшчэ, і яшчэ. І заспяваў раптам салавей.

І было гэта так прыгожа і дзіўна, ажно варта забылася, што павінна была рабіць. Падалося тады ёй, што быў загад прывезці Янку да Альдоны.

А як пачула Альдона Янку-салаўя дык і закахалася. А інструмент стаў называцца ў гонар берасцейскай шляхцянкі — берасцянка.

* * *

То не птушка берасцянка —
Беларускі інструмент.
Калі грае на ёй Янка —
Кожны гук, як дыямент.

Берасцянка, бо з бярозы.
Вузкай стужачкай вясны
Выганяе ўсе марозы,
Запрашае ў лета сны.

З маладога робяць дрэўца,
Гук чысцюткі аддае.
Мо таму кранае сэрца
І, як салавей, пяе.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Стужачка прыкладаецца да рота гарызантальна. Калі дзьмеш, струмень паветра

разбіваецца аб вострую грань стужачкі і прыводзіць яе ў калыханне.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы думаеце, ці мяняецца афарбоўка гуку ад таўшчыні берасцянай стужкі, ад даўжыні той часткі, што калыхаецца, ад ступені напяцця?





# БРАЗГОТКА

Як кажуць разумныя людзі, аднаму лёс багацець, а другому бразгацець.

Жылі-былі два мужыкі ў адной Богам забытай вёсцы. Але забытай — тое няслушна, бо Бог нічога не забывае.

Юрась вельмі любіў грошы, а Міхась — фасолю.

Грошы — не вошы, хутка не заводзяцца. Таму бярог Юрась кожную капейчыну. Бывала, і не даесць: хоць і ёсць грошы, але ж шкада на ежу браць, лепей у драўляную скрыначку пакласці. Патрасеш каля вуха — і весялей становіцца.

А фасолю, што называецца, еш з соллю, песні спявай, пра кепскае не ўспамінай. І еў Міхась фасолю, і сяброў частаваў, і ніколі не шкадаваў. Бо дзе вы бачылі, каб фасолі шкадавалі. Фасоля — не грошы.

І прыйшоў аднойчы ў вёску, дзе жылі Юрась і Міхась, Бог.

Зайшоў да Юрася і папрасіў парадаваць яго чымсьці вельмі

дарагім для гаспадара. Тут Юрась дастаў драўляную скрыначку з грашыма ды пачаў звінець ля вуха Божага. Стаміўся Божанька, і на развітанне толькі і сказаў: «Згрызуць цябе грошы горш, чым вошы». І так яно і сталася, бо ні сяброў у Юрася ніколі не было, ні жонкі — хто ж з такім скнарам сябраваць будзе, хто ж з такім скнарам пабярэцца шлюбам?

А калі да Міхася Бог прыйшоў, насыпаў той у кляновую скрыначку прастакутнай формы, адкрытую з аднаго боку, жменьку сухой фасолі. І стаў бразгацець. Ды яшчэ не забыўся на стол варанай фасолі з соллю паставіць. А тут і суседзі сталі ў хату заходзіць, да стала і радасці далучацца, прыгожа танцаваць і спяваць…

Як кажуць разумныя людзі, аднаму лёс багацець, ды на гора, а другому бразгацець, ды на шчасце.

* * *

Бразгаціць
Бразготка,
Стукае,
Грукоча,
Нібы
Наша котка
Драпае,
Вуркоча.
Са стала
Як скіне
Шумную бразготку,
Тая не загіне,
Бразне
Зорку-нотку.



Інфармацыя для вундэркіндаў: Існуе разнавіднасць браз-

готкі, у якой фасоліны нанізваюцца на нітку. Бразготкі — гэта яшчэ і агульная назва многіх народных інструментаў класа ідыяфонаў: шархуноў, званочкаў, трашчотак і інш.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы мяркуеце, ці можна ў бразготцы замяніць фасолю бобам?








## БУБЕН

Жылі ў мястэчку Мір муж і жонка, Казімір і Міраслава. І хоць мястэчка Мір — найбольш мірнае ў свеце, міру ў сям'і Казіміра і Міраславы не было. Бо вельмі ўжо любіла Міраслава пабубніць. Гэта значыць альбо навязліва паўтарала адно і тое ж, і Казімір не вытрымліваў, прасіў яе памаўчаць. Альбо гаварыла ціха, незразумела, манатонна, і Казімір стамляўся перапытваць, што яна сказала. Альбо так, альбо гэтак, але ж ні маўчаць, ні па сто разоў казаць адно і тое ж жонцы не хацелася. І паціху пачыналася сварка.

Сіл так жыць не было ўжо ні ў Казіміра, ні ў Міраславы. Скардзіліся яны адно на аднаго на ўвесь Мір.

Але неяк папрасіўся на начлег у сварлівую сям'ю вандроўнік, пабачыў, як бубніць Міраслава, і параіў Казіміру, каб наладзіць сітуацыю, самому бубніць. Нават навучыць паабяцаў у найбліжэйшую нядзелю ў Карэлічах.

Здзівіўся Казімір, але толькі каб не быць з жонкай-бубнілкай, паехаў у нядзелю ў суседняе мястэчка па навуку.

Прыехаў, а там знаёмы вандроўнік на скоках б'е ў нейкую штуковіну. Прыгледзеўся Казімір — гэта драўляны абруч, абцягнуты з аднаго боку скурай, у проразях абруча — пары рухомых круглых «талерачак». А пад скурай крыж-накрыж падвязаныя званочкі. Трымае вандроўнік гэтую прыладу ў левай руцэ, а калатушкай б'е па скуры. І такое бубненне-натхненне ідзе, што астатнія музыкі так лёгка граюць, нібы анёлы. Ды і танцоры натхняюцца. Не ўтрымаўся і Казімір, кінуўся ў скокі.

А як наскакаўся Казімір, падараваў яму музыка бубен і сказаў: «Без бубнення няма натхнення. Як не грае бубнач, няма ладу, хоць ты плач. Прыйдзеш да хаты, адразу пастарайся перабубніць сваю жонку, і ўсё будзе добра».

Вярнуўся Казімір, і не паспела Міраслава ўзяцца за свой улюбёны занятак, як Казімір дастаў бубен і пачаў сам бубніць. І калатушкай б'е, і пальцамі, і далонню, і нават кулаком.

І натхнілася Міраслава на весялосць. І з таго часу сама стала прасіць мужа пабубніць. І нават прымаўка ўзнікла: «Мір, Казімір, Міраслава — бубну слава».

* * *

А бубнач,
Альбо бубніст, —
То ж павінен быць
Артыст,
Які створыць
Свой сусвет,
Каб рытмізаваць
Наш свет.



Каб натхненне
Ў ім жыло,
Каб суладдзе
Ў ім было.
А на бубне
Ўсе званцы,
Нібы з казкі
Малайцы.
Таму музыка
Зіхціць
І не можа
Адпусціць.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Бубен — інструмент класа мембранафонаў. Сведчаннем таго, што бубен быў вядомы ў Беларусі ў 15 стагоддзі, лічыцца выява скамароха на фрэсцы касцёла Святой Тройцы ў Любліне (Польшча) работы майстроў Вялікага Княства Літоўскага.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы думаеце, ці залежыць гучанне бубна ад таго б’е музыка па ім пальцамі ці кулаком? Ці ўплывае на гучанне інструмента месца, па якім б’е музыка?



# ВАРГАН

Ёсць каралі сярод людзей, і ёсць каралі сярод звяроў. Вось і ў катоў быў свой кароль. Звалі кашэчага караля Варгін.

Вылучаўся ён не толькі сваім каралеўскім статусам, але і выглядам: быў велізарных памераў, увесь чорны, поўсць на ім блішчэла, а вочы гарэлі агнём. Апрача ўсяго, меў здольнасць нечакана з'яўляцца і нечакана знікаць, нават пры зачыненых дзвярах і вокнах.

Варгін вельмі часта змяняў гаспадароў, бо нікога не любіў. Ён уваходзіў у ласку да чалавека і паступова даводзіў яго да страшэнных хваробаў, сварыў не толькі з сябрамі і знаёмымі, але і з усімі ягонымі сямейнікамі.

Аднойчы прылашчыўся Варгін да добрай і працавітай жанчыны Марылі. Муж ейны загінуў, абараняючы краіну ад чужынцаў. І жыла яна з двума сынамі: кавалём Касьянам і музыкам Мар'янам.

Нічога не шкадавала Марыля для Варгіна: і свежага малачка

налье, і апошні кавалачак каўбаскі аддасць. Але не злітаваўся падступны кашэчы кароль. Пачала жанчына хварэць усё цяжэй і цяжэй. Ніякія лекі не дапамагалі.

Кінуліся Касьян і Мар’ян да чараўнікоў, знахараў. Тыя прыйдуць, пашэпчуць, нібыта і палягчае маці, але ненадоўга.

Па нейкім часе толькі і магла ўжо жанчына клікаць: «Варгін! Варгін!» Пачуў гэта адзін з чараўнікоў, што выпадкова пабачыў чорнага ката, які звычайна хаваўся, — і ўсё зразумеў. Паклікаў Касьяна і Мар’яна на двор і кажа ім: «Да вашай маці прылашчыўся злосны кашэчы кароль. Кліча яна яго: “Варгін! Варгін!”, а ён адразу мяўкае: “Гінь! Гінь!”» — «Што ж рабіць?» — спыталіся браты. І чараўнік сказаў зрабіць кавалю Касьяну металічную падкоўку з выцягнутымі лапкамі, якія паступова патанчаюцца і набліжаюцца адна да адной. У сярэдзіне падкоўкі прымацаваць тонкі сталёвы язычок, які, праходзячы паміж лапкамі, заканчваецца кручком. А калі ўсё будзе гатова, музыка Мар’ян павінен падысці да ложка маці, сказаць: «Варган! Варган! Гані Варгіна, няхай ён згіне!», паднесці інструмент левай рукою да рота, прыціснуць ягоныя канцы да зубоў, а ўказальным пальцам правай рукі зашчыкваць язычок інструмента.

Так і зрабілі Касьян з Мар’янам. І знік з Беларусі злосны Варгін. І застаўся варган — музычны інструмент.

* * *

Металічная падкоўка
Выцягнула
Лапкі.
    Слухае яе
    Багоўка,

Сцішыліся
Жабкі.

То варган
Гучыць таемна,
Нібы
Праз стагоддзі,
Гук ціхуткі
І прыемны
Белы свет
Лагодзіць.

Моўны ён
Сваяк аргана,
Але не музычны.
Лекуе душы ён
Раны
Магіяй
Нязычнай.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Варган — старажытны самагучальны язычковы інструмент. Найбольш ранція звесткі пра варган сягаюць у 12 стагоддзе — археолагі знайшлі гэты інструмент у Друцкім замку, што на Віцебшчыне.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Чым адрозніваецца варган ад аргана?



# ВУГОЛЬНІК

Жылі-былі дзве сястры-прыгажуні. Адну звалі Вуглю, а другую — Воля. І былі яны блізнятамі. Ды такімі падобнымі адна да адной, што толькі маці іх і адрознівала.

Заўжды яны разам і працавалі, і гуляць хадзілі, і спявалі срэбна-чыстымі звонкімі галасамі. Але ж такія прыгожыя і аднолькавыя былі, што хлопцы баяліся да іх падыходзіць. Бо як ты падыдзеш да Вуглі, калі побач стаіць дакладна такая ж, але Воля. Альбо сам паблытаеш, альбо яны вырашаць пасмяяцца і падмануць, хто з іх Вугля, а хто Воля.

І таму, хоць і прыгажунямі былі, але самотнымі. Ніхто ў сваты не прыязджаў, ніхто да шлюбу не клікаў.

Неяк не дагледзелі сёстры, і пагас у печы агонь. Трэба было пазычыць у каго-небудзь вугельчык. Каб хутчэй — пабеглі яны ў розныя канцы вёскі. І сустрэла па дарозе

Вугля вершніка. Прыпыніўся ён, каб распытаць, што за вёска, і закахаўся, бо ніколі ў жыцці не бачыў такой прыгажуні. І Вугля адчула, як ейнае сэрца запалала. Забылася яна і на агонь пагаслы, бо папрасіў вершнік напаіць яго і каня вадою.

Як наблізіліся яны да хаты, і Воля ўжо падышла з вугалькам пазычаным. Паглядзела на вершніка і вугалёк выпусціла, так горача стала. А вершнік таксама разгубіўся. Налева зірне — прыгажуня Вугля стаіць. Направа — гэткая ж прыгажуня. І не вытрымала ягонае сэрца — разарвалася ад кахання.

Так і засталіся Вугля і Воля самотнымі. А ў мясцовага каваля замовілі яны са сталёвага прута роўнабаковы трыкутнік, незамкнёны ў адным з кутоў. І сталі прыходзіць з ім штовечар на магілу вершніка, біць па ім тонкім сталёвым цвіком. І ляцелі ў неба пяшчотныя гукі, адрывістыя, звонкія, празрыстыя.

А пасля і музыкі сталі замаўляць у кавалёў такія ж трыкутнікі, называючы іх ад імёнаў Вуглі і Волі — вугольнікі. А некаторыя, узгадваючы вершніка, замаўлялі іх у выглядзе падковы, якая прыносіць шчасце.

* * *

Роўнабаковы трыкутнік  
Вывучыў  
Вучань-пакутнік.  
А ёсць яшчэ  
Незамкнёны,  
Вядомы у нас  
Здаўна ён.  
Як цвік па ім



Злёгку дзынкне,
Гук з яго срэбны
Вымкне.
І болей
Няма пакутаў —
Да музыкі
Сэрца
Прыкута.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Вугольнікі, блізкія сваёй формай да падковы, бытуюць пад назвай «сталькі».

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Якую функцыю выконвае вугольнік у ансамблі?





# ВУСНАВЫ ГАРМОНІК, альбо ВУСЛІ, ГУБНЫ ГАРМОНІК

Закахаўся малады шляхціч Ян у шляхцянку Яну. І здавалася б, болей прыгожай і гарманічнай пары і быць на свеце не можа. І вонкава, і калі імёны адно вымавіць ці напісаць: Ян і Яна. Яна і Ян.

Ды калі б так проста было ў жыцці, пагатоў у каханні. І разумны быў Ян, і прыго жы, і добры, ды не імкнулася да яго сэрца Яны. А язычок у яе востры быў. І чым болей Ян змагаўся за сваё каханне, тым болей яна з яго кпіла і смяялася. Яну часам нават падавалася, што за прыгожымі вуснамі хаваецца не адзін, а дзесяць язычкоў.

Стаміўся Ян неверагодна, а ягоны сябра з Нямеччыны Хрысціян Фрыдрых Людвіг Бушман, даведаўшыся пра нешчаслівае каханне, запрасіў Яна да сябе ў госці.

Паехаў Ян, але расстанне не згасіла, а яшчэ болей распаліла ягонае пачуццё. Штодзень слухаў Хрысціян пра Яну. Асабліва

ўразіла яго гісторыя пра дзесяць язычкоў за прыгожымі вуснамі. І аднойчы ранкам 1821 года разбудзіў Хрысціян сябра дзіўнымі гукамі. Ён граў на інструменце, які толькі што зрабіў, — на вуснавым гармоніку. Так граў, што Яну падалося, што Яна з ім побач.

І вярнуўся Ян у Беларусь. І прыйшоў да акна Яны. І зайграў. І кінулася яна яму на шыю, бо зразумела, пакуль яго не было, што таксама кахае.

А Ян? А Ян усё сваё далейшае шчаслівае жыццё думаў, што гэта вуснавы гармонік яму дапамог.

Ды і тут няма нічога незвычайнага: бо хіба знойдзецца чалавек, які кепска будзе думаць пра вуснавы гармонік.

* * *

Прачытаеце як «вуслі» —
«В» на «г»
Не выпраўляйце.
То не самагуды-гуслі —
Вуснавы гармонік,
Знайце.

Ён маленькі,
Ды таемны,
Язычкоў
Нямала мае.
Інструмент ён
Не багемны,
Ды ўсялякае
Бывае.

Так і цягнецца
Да вуснаў
І майстроў сваіх
Цалуе.
Колькі зім ужо
І вёснаў
Дзіўнай музыкай
Мілуе.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Вуснавы гармонік — язычковы музычны інструмент. У яго сярэдзіне знаходзяцца медныя пласцінкі (язычкі), якія калыхаюцца ў струмені паветра, што стварае музыка. У адрозненне ад іншых язычковых музычных інструментаў вуснавы гармонік не мае клавіятуры. Замест клавіятуры выкарыстоўваюцца язык і вусны для выбару адтулінаў (як правіла яны размешчаны лінейна), якія адпавядаюць патрэбнай ноце.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Чым адрозніваецца вуснавы гармонік ад звычайнага гармоніка?





# ГАРМОНІК

Усе музычныя інструменты ведаюць, што жыве Беларусь у цэнтры Еўропы. А які музычны інструмент неахвочы жыць у цэнтры Еўропы?

Такіх няма. Усе пра гэта мараць, але не ва ўсіх атрымліваецца. Калі ж Беларусь прыняла які-небудзь інструмент, дык з усёй душою і гасціннасцю, на якую толькі здатная. І не істотна, адкуль госць: з Усходу ці з Захаду, з Поўначы ці з Поўдня.

У 1822 годзе ў Германіі нарадзіўся гармонік, які атрымаў назву ад грэчаскага слова *harmonikos*, што значыць сугучны, зладжаны. Неўзабаве ён распачаў падарожжа па многіх краінах свету. Набіраўся досведу, зазнаваў уздзеянне розных этнічных традыцый.

Да прыкладу, гармонік, удасканалены ў Вене, мае назву «венка». У Польшчы гармонік напампоўваўся паветрам праз

трубку пры дапамозе нажной педалі, такі гармонік называецца «педалёўка». З Расіі прыйшлі гармонікі «петраградка» і «хромка». Трапляліся і гармонікі-«італьянкі».

Усе гэтыя гармонікі ў канцы 19 і пачатку 20 стагоддзя павандравалі ў Беларусь. І ні разу не засумняваліся ў сваім выбары. Палюбілі беларусаў, а беларусы палюбілі іх.

Асаблівая гармонія з гармонікам выйшла ў прыпеўкі. І суладдзе, і любоў, і імправізацыя. Бо стварыць прыпеўку для беларуса — не праблема. У кожны момант ён можа заспяваць і пра працу, і пра сям'ю, і пра суседа. Быў бы побач гармонік. А гарманісту прыпеўкі таксама дазваляюць раскрыць сваё віртуознае майстэрства і ўменне імправізаваць.

У нашай не самай цёплай краіне (не душэўна, вядома ж, а кліматычна) немагчыма без весялосці. Нездарма ж у нас найпрыгажэйшая з'ява прыроды (вясёлка) і найпрыгажэйшая падзея жыцця (вяселле) маюць адзін і той жа «вясёлы» корань.

А таму і не дзіўна, што спяваюць пад гармонік:

На гармоніку зайграю —
Выганю я бедаў зграю.
А прыпевачку заспяваю —
Весялосці для ўсіх назбіраю.

Спяваюць і весяляцца. Але вы не чакайце, што вас развесяляць. Самі вазьміце ў рукі гармонік ды імправізуйце.

* * *

Каб была ў жыцці гармонія,
Я сыграю на гармоніку.

Хоць і створаны ў Нямеччыне,



З намі сыграны, канечне, ён.

Калі мех яго расцягваю,
Весялосць і смех прыцягваю:

І пяюць прыпеўкі дзяўчыначкі,
Разлятаюцца ў свет смяшыначкі,

Гумарныя, і сатырычныя,
І сучасныя, і класічныя.

Так са святам яны стасуюцца,
Што па ўсёй Беларусі чуюцца.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Гармонік складаецца з гукавытворчай механікі (планкі са сталёвымі язычкамі, рэзанатары і клавішны механізм), корпуса (дзве драўляныя рамы, злучаныя мехам) і меха (паветраны рэзервуар).

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Апрача ручнога і ножнога гармонікаў, які яшчэ існуе гармонік, звязаны з часткай цела чалавека?





# ГУСЛІ

Ёсць інструменты, на якіх граюць людзі. А ёсць інструмент… Толькі не падумайце, што на ім граюць не людзі. Не, такога быць не можа. Людзі, канечне, граюць. Але пры гэтым уважаюць, што грае інструмент сам, таму і называюць яго часта гуслі-самагуды.

Кажуць яшчэ, што на гэтым інструменце вельмі лёгка навучыцца граць. Але лёгка толькі таму, хто ў яго ўлюбёны, хто мае нязломны характар і вялікую душу. І таго, хто з Божае ласкі грае на гуслях, называюць гусляр.

А му́зыка гусляў насамрэч імкнецца ўвышкі. Кожная струна пакідае адмысловае рэха. Гукі наслойваюцца адзін на адзін. Вось і падаецца, што гуслі самі співаюць.

Гуслі — інструмент старажытны і загадкавы. Але дакладнага продка гусляў ніхто не ведае. Ці гэта быў музычны лук, ці лера кшталту грэчаскай, ці старажытнакітайскі інструмент гуцынь.

Так ці інакш, але ж прыжыліся гуслі ў Беларусі. І менавіта ў Беларусі існуе легенда, што кожны гусляр за жыццё стварае са сваёй музыкі курган. І гэтыя нябачныя курганы ахоўваюць нашу краіну.

Беларусь называюць зямлёй пад белымі крыламі. А ці не падаецца вам, што яна яшчэ — зямля з крылападобнымі гуслямі, якія яе натхняюць, і шлемападобнымі гуслямі, якія яе ахоўваюць?

* * *

Гуслі ёсць —
І ёсць гусляр.
Гуслі ёсць —
І крылы ёсць.
Гуслі ёсць —
І ёсць пясняр.
Ёсць гусляр —
І ён не госць…

Няхай гуслі
Не арган —
Іх трымае чалавек, —
Ды ствараецца
Курган
З гэтай музыкі
Навек.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Гуслі маюць драўляны рэзанатарны корпус розных памераў і формаў (крылападобныя, шлемападобныя, прастакутныя), над верхняй дэкай якога напятыя жыльныя або металічныя струны. Гук узнікае пры зашчыкванні струн пальцамі або брынканні па іх. У Беларусі першыя звесткі пра гуслі знойдзены ў творах пісьменніка і царкоўнага дзеяча Кірылы Тураўскага і датуюцца 12 стагоддзем.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: У якой паэме і якога класіка беларускай літаратуры створаны гераічны вобраз гусляра, вобраз музыкі-прарока?



# ДУДА

Хіба ёсць беларус, які не любіць танцаваць? І думаць тут доўга не трэба. Няма. Можа, і ёсць, які не ўмее танцаваць, але ж любіць, дакладна любіць… Асабліва беларус любіць скокі пад дуду.

Але ж не за тое ў беларусаў дудар заўсёды лічыўся сакральнай асобай, надзеленай звышнатуральнай сілай. Безумоўна, не за тое.

Адбылося ўзвышэнне дудара над астатнімі ў даўнія часы. Жыў у вёсцы Дуды музыка Кастусь, які граў на жалейцы. Ды так нябёсна граў, што ў яго паверыў сам Бог. Бо Бог таксама верыць, спадзяецца і любіць, як і творчыя беларусы. А нятворчых беларусаў і не бывае.

Таму і Бог жыве на Беларусі, бо зямля гэтая творчая, натхняльная. Але ж месціцца яна ў цэнтры Еўропы, на скрыжаванні асноўных дарог. Вось і прыблукаў у Беларусь ад-



нойчы чорт, шукаючы, дзе б і яму абраць сталае месца жыхарства. Упадабаў ён зямлю творчых людзей. А ўжо музыкаў ён пагатоў не мог пакінуць у спакоі: чапляўся да іх інструментаў, шкодзіў, разладжваў, адным словам, весяліўся, як чорт. Так са здзекамі і кпінамі дабраўся чорт да Кастуся. Дабраўся і ўпершыню пачуў жалейку. Пачуў і спалохаўся, што не вытрымае і каго-небудзь пашкадуе. І, разгубіўшыся, стаў дакараць Кастуся: «Ты толькі на жалейцы і ўмееш граць, шкоднік!» Чорт, вядома ж, пераблытаў словы «шкадаваць» і «шкодзіць». А музыка, не доўга думаючы, і кажа: «Я і на чорце сыграю! І будзе ўвесь народ з яго смяяцца». Даў музыку чорт адзін месяц, каб выканаць абяцанне. А не выканае — у пекла забярэ.

Беларусы ж яны такія: будуць да апошняга змагацца, каб выканаць сваё абяцанне. Вырабіў Кастусь мех з казлінае скуры і зрабіў у ім тры адтуліны. У адну ўставіў прапаленую ўнутры кляновую палачку, каб дзьмуць у яе. У другую адтуліну ўштукаваў жалейку. А ў трэцюю, бо часу было замала, прыладзіў бурдон — жалейку без іграных адтулінаў.

Перад прыходам чорта сабраў Кастусь сяброў. Узяў мех пад паху левай рукі і, надзімаючы, адначасова пачаў браць перабор абедзвюма рукамі і выконваць на ім розныя мелодыі. І тут пачаліся смех і рогат, бо дуда нагадвала нечым чорта з хвастом. І адзін з жартаўнікоў так і крыкнуў: «Глядзі, Кастусь на чорце грае!» Так і не застаўся чорт жыць у Беларусі, хоць часам і наведваецца, спрабуе ўладкавацца. Ды дзе там — усё адно яму не жыць тут, бо не пераводзяцца ў Беларусі дудары.

* * *

Як дудар  
Мяхі надзьме —

Уздымае

Настрой мне.
Бо вядома —
Без дуды
І не туды
І не сюды.

Як зайграе
На дудзе —
Нібы цэлы свет
Гудзе:
Танчыць
І спявае,
Лепей
Не бывае.

Не стамляецца
Дудар,
Бо дуда —
То ж Боскі дар.

Інфармацыя для вундэркіндаў: У дудзе можа быць некалькі бурдонаў, кожны з якіх дае па адной ноце. Дуда з трыма і болей бурдонамі ў Беларусі называецца «мацянка». Паводле сведчання музыкаў, дуда — інструмент, які болей за ўсё выяўляе душу беларуса. Калісьці нашыя войскі нават ішлі ў бойку пад гукі дудаў.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Каго з класікаў беларускай літаратуры называюць Беларускім Дударом?

## ДУДКА








У даўнія часы, калі на зямлі было кветак, птушак і звяроў нашмат болей, чым цяпер, жыў чалавек, закаханы ў прыроду. Не ўяўляў Святаслаў сабе жыцця без любавання мятлікамі і лілеямі, без назірання за бабрамі ды буслامі, без лесу з ягадамі і грыбамі, без паветра з песнямі жаўрукоў.

І яны ўсе яго любілі, бо немагчыма не любіць чалавека, які любіць жыццё.

Але ж апрача свету прыроды існуе свет людзей. Напалі на нашую краіну ворагі. І не мог Святаслаў не пайсці на святую справу — змаганне за родны край. Край, у якім, як ён меркаваў, найпрыгажэйшыя ў свеце мятлікі шукаюць найпрыгажэйшыя ў свеце кветкі. Край, у якім птушкі сваімі спевамі лучаць неба і зямлю. Край, у якім лясы, нібыта людзі, заўжды паўстаюць на абарону сваёй зямлі.

Адстаяў родную зямлю Святаслаў. Але ж у змаганні быў ён цяжка паранены. І не змог болей блукаць па лугах і палях, піць ваду з крыніц і ўглядацца ў зорнае неба. Прыкуты да

ложка ляжаў ён, канаючы, у сваёй хаце.

Жонка і сын добра даглядалі яго: найлепшую ежу і пітво прапаноўвалі. Але нічога не магло яму замяніць жывой прыроды.

І тады сын ягоны зрабіў музычны інструмент. Змайстраваў ён яго з крушыны, каб адагнала дудка скруху і хваробы. Счасаў сын дрэва да патрэбнага дыяметра, абгабляваў, прапаліў канал у загатоўцы распаленым джгалам, а потым прыдатным прутом. Прарэзаў свістковую адтуліну-«галаснік», потым іґравыя адтуліны-«галасы». З крушыны ж выразаў корачак.

І калі дудка была гатовая, зайграў каля хворага, які спаў. Прачнуўся бацька, папрасіў есці, піць і распавёў, што ў сне хадзіў па лесе і сярод птушыных спеваў і шуму лістоты чуў дзіўныя гукі, напоўненыя паветрам жыцця. Сем дзён граў сын каля бацькі, калі той засынаў. І здарылася свята — акрыяў Святаслаў. І аднойчы выйшаў з хаты на вольнае паветра.

Вось з тых часоў і жыве ў беларускім народзе ўпэўненасць у незвычайным уздзеянні дудачнікаў на жывы і нежывы свет. І калі ты хоць раз уважліва і ўдумліва паслухаеш дудку, то зразумееш, што гучанне гэтага інструмента ўвабрала ў сябе пошум беларускіх лясоў і гудзенне пчол па-над кветкамі і шолах крылаў птушак, што адлятаюць у вырай. І вяртаюцца ў Беларусь.




* * *

Дудка —
Не дуда маленькая.
Дудка —
Зграбненькая
І міленькая.

І гукае яна
Вясну,
Як пачуеш —
Зусім не да сну.

І звініць,
І свішча,
І клякоча.
З Беларусі
Нікуды
Не хоча.

Інфармацыя для вундэркіндаў: На тэрыторыі Беларусі дудка вядомая з 2-га тысячагоддзя да нашай эры. У Беларусі пашыраныя і парныя дудкі, якія складаюцца з дзвюх і болей дудак розных памераў.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы мяркуеце, да якога інструмента бліжэй за ўсё дудка паводле назвы?



# ЖАЛЕЙКА

У старажытныя часы жыла дзяўчынка-красуня Аленка. Не толькі матулю і тату цешыла, але нават сонейка расплывалася ва ўсмешцы, як толькі яе бачыла. Аблокі пачыналі гарэзіць: ператварацца ў фігуркі розных жывёл і прадметаў. А хмаркі праліваліся найпяшчотнейшым дажджом, які толькі бывае ў Беларусі.

Не толькі красуняю была Аленка, але і разумніцай з чуллівай музычнай душою. Ва ўсім яна чула музыку: і як яблычак наліваецца, і як пчолка мёд збірае, і як сонца ўвечары калыханку яе роднай зямлі спявае.

І раптам музыка абарвалася. Перастала яе Аленка чуць, бо памерла матуля.

Не было каму пашкадаваць дзяўчынку. А калі хто і казаў «бедная Аленка», дык абы прамовіць і адразу ж забываўся на яе.

Паступова і Аленка стала замкнёнай, няўсмешлівай. І толькі часам спрабавала ўзгадаць музыку свету, якую яна раней чула.

А калі вырасла красуня, і ад жаніхоў адбою не было, ні на кога не звяртала ўвагі. І нават калі ў яе пыталіся, хто ж ёй трэба, не магла нічога сказаць.

Але ж не бывае так, каб нават у чорным жыцці не засвяціла сонейка.

Закаханы музыка адчуў, што Аленцы неабходная музыка, якая выцягнула б з яе ўвесь жаль, усе пакуты. Адчуў і зрабіў адмысловую дудку з раструбам з каровінага рога і язычком з ясеню.

І як толькі пачула Аленка моцнае, рэзкае, крыху гугнявае гучанне гэтага інструмента, пачалі з яе жаль і самота ўцякаць. І зразумела яна, што нельга не любіць гэты свет. І музыку зноўку стала ва ўсім чуць. Што і не дзіўна, бо закахалася.

А інструмент гэты лёг на душу беларусам і стаў называцца — жаленка (ад жалю і Аленкі). Ды праз шматлікія стагоддзі літара «н» у «й» замянілася. І гучыць жалейка — кранальна і моцна.

* * *

Калі сумуеш,
Ты — нібы жалейка.
У задуменні
Ты — нібы жалейка.
Сляза на вейках —
Ты — нібы жалейка.

Як плача

Дзеўчынка-жалейка,
Як плача
Хлапчаня-жалейка,
Шкадуе мілая матуля,
Нібы жалейка.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Жалейка існуе і як самастойны інструмент і як канструкцыйны элемент дуды. Сучасныя майстры вырабляюць жалейкі не толькі з дрэва і рога, але і з сінтэтычных матэрыялаў.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Першы зборнік якога класіка беларускай літаратуры называецца «Жалейка»?







# ЗВАНОК, альбо БОТАЛА, КЛЯПАЙЛА

Нарадзіліся калісьці даўно-даўно ў адным мястэчку хлопчыкі-блізнюкі. Падобныя адзін да аднаго, як дзве кроплі вады, як чатыры сняжынкі, як шэсць градзінак, як восем зорак, як дзесяць пялёсткаў рамонку, як дванаццаць малінаў. Мінаў час, і споўнілася Ярылу і Кірылу чатырнаццаць гадоў.

Ніхто іх не адрозніваў, апрача маці. Ды і тая, калі вельмі стоміцца, то, здаралася, памыліцца. Не адрознівалі Ярылу і Кірылу толькі вонкава, а вось характары іх былі процілеглыя.

Ярыла быў звонкі і яскравы, далёка-далёка разносіўся ягоны голас: і калі ён спяваў за працаю, і калі гуляўся з сябрамі. А Кірыла быў спакойны, разважлівы, нібыта пра яго і была складзеная прыказка «Сем разоў адмер, і то не вер». Ярыла заўжды ля каваля час бавіў, а Кірыла з дрэва любіў выразаць.

І вось аднойчы пастанавілі яны, што трэба кожнаму з іх

прыдумаць свой інструмент, каб ніхто іх зблытаць не змог.

І нічога дзіўнага, што Ярыла вырашыў інструмент з металу зрабіць, а Кірыла — з дрэва.

Узяў Кірыла пілу, сякеру і нож, знайшоў цвёрдае звонкагалосае дрэва — клён, і выразаў корпус трапецападобнай формы і ўнутры яго два языкі-«білы». І назваў свой інструмент — ботала. Пры ягоным разгойдванні чулася пастукванне, то мернае, ціхае, то гучнае, трывожнае.

Ярыла ж выкаваў інструмент конусападобнай формы з жалеза. І язычок у ім, зразумела, жалезны зрабіў. І назваў яго — кляпайла. І не пастукваў ён, як ботала, а бразгацеў.

Немагчыма стала паблытаць Ярылу і Кірылу, вельмі ўжо розніліся вонкава іх інструменты. Але ж сутнасна былі яны вельмі падобныя адзін да аднаго. І таму ў народзе атрымалі агульную назву — званок.

Праз тое, што ў кожнага званочка свой голас, сталі званкі дапамагаць гаспадарам і коней па начах адрозніваць. А гаспадыні верылі, што званочкі ахоўваюць іх кароў ад вядзьмарак. А на Каляды званкі стваралі атмасферу ўрачыстасці і весялосці. І яшчэ яны абвяшчалі, што едзе вясельны поезд.

А вяселлем не толькі казкі заканчваюцца, але і нашая гісторыя.

* * *

Калі званок
Драўляны —
Ён «ботала»
Названы.
Калі ж званок
З металу —




«Кляпайла»
Вас вітае.

Хоць звона
Крэўнік блізкі,
Ён не высокі —
Нізкі.

Не на званіцы
Звоніць —
А між людзей
Гамоніць.

І з коньмі
Лётаць будзе,
І бубен
Не забудзе.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Званкі былі неад'емным атрыбутам паштовай службы ў той час, калі пошту развозілі тройкамі (тры кані). Званкі вешалі пад дугой, таму і называлі іх паддужнымі.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Складовай часткай якога інструмента ёсць маленькія званочкі?



# КАПЫТЦА

Жыла-была ў Ветцы, што на Гомельшчыне, бабуля. А ў бабулі жыло-было казляня. Звычайнае шэрае казляня, якое звычайна і жыве ў бабуляў. Было толькі яно незвычайна шкодным. То капытцам стукне суседку. То ў гарод чужы ўлезе, і што не з’есць, тое вытапча.

Што трэба адзначыць, у бабулі ў гародзе казляня вытоптвала толькі цыбулю. Бабуля плакала, бо вельмі любіла яе. А казляня пастуквала ад здзіўлення сваім капытцам, бо лічыла, што гэта ж яно, казляня, выратавала бабулю ад слёз. Бачыла ж, колькі бабуля над цыбуляю плача.

А плакаць ёй даводзілася часта, бо ў бабулі ж быў дзед, які любіў цыбулён. Так дзед называў суп з цыбулі.

Колькі разоў дзед важыўся зарэзаць шкоднае казляня, але ж не мог. Бо апрача шкоды дзедаваму цыбулёну, казляня прыносіла дзеду і радасць. У малога было чароўнае капытца.

Як патопча казляня ім цыбулі, а пасля як стукне па клёне, што рос ля хаты, узнікалі вельмі яскравыя і звонкія гукі.

Жыла-была бабуля, жыў-быў дзед. І якія ж яны дзед і баба, калі ў іх няма ўнука. І, безумоўна, унук быў. Унук Вячка. І не звычайны які-небудзь унук, а вундэркінд.

І таму здагадаўся Вячка, што трэба зрабіць, каб казляня не шкодзіла. Выразаў ён кляновы цыліндрычны брусок з вузкім перахватам пасярэдзіне, з дзвюма танкасценнымі вытачанымі з тарцоў трубкамі рознай даўжыні і дыяметра і падоўжнымі проразямі па баках. І доўгую драўляную палачку зрабіў, таксама часткова разрэзаную ўздоўж. Узяўся левай рукой за перахват, у правую ўзяў палачку і стаў біць то па адной, то па другой трубачцы.

І такія ж гукі пайшлі, як ад удару казляняці капытцам аб клён. І казляня стала слухаць і слухацца. І цыбулі болей не таптала.

І як жа было не назваць новы інструмент капытцам.

* * *

Гэтае
Капытца
Не для таго,
Каб біцца.

І не за тым,
Каб бегчы
І ў садзе чужым
Легчы.

Не вытапча

Цыбулі,
Каб плакала
Бабуля.

Яно з кляночка-
Клёну
Заўжды найграе
Плёну

У гуках яркіх,
Звонкіх,
Для мужа
І для жонкі.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Першая згадка пра капытца сягае ў 18 стагоддзе.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Для чаго ў трубак розны дыяметр і даўжыня?





## КЛАРНЕТ, альбо КЛЯРНЕТ

У 17 стагоддзі жыў у Нямеччыне Іаган Крыштоф Дэнэр — выдатны майстар духавых музычных інструментаў. Яшчэ ў маленстве пачуў ён аднойчы на вуліцы горада Нюрнберга дзіўныя гукі беларускай жалейкі, на якой граў вандроўны музыка. А праз колькі гадоў сустрэў і ейнага французскага брата — шалюмо, які канструяваўся з суцэльнага кавалка буку ці самшыту.

Слухаючы шалюмо, майстар узгадаў беларускую жалейку. І так захацелася стварыць яму свой інструмент! Інструмент, які яшчэ не існаваў у свеце, але без якога вельмі хутка свет не зможа ўяўляць сябе.

Доўга працаваў Іаган Крыштоф Дэнэр, і нарэшце загучаў ягоны драўляны духавы язычковы музычны інструмент — кларнет, назва якога паходзіць ад лацінскага слова *clarus* — ясны (гук). Загучаў не толькі ў Нямеччыне, але і ў іншых

краінах Еўропы, у тым ліку і ў Францыі, і ў нас — у Вялікім Княстве Літоўскім. Напачатку з’явіўся ён у духавых і сімфанічных аркестрах.

Створаны на аснове народнага інструмента, неўзабаве кларнет увайшоў і ў вясковы побыт беларусаў.

* * *

Кларнет паходзіць
Ад шалюмо —
Французскага брата
Жалейкі.
І хай
Фабрычнае мае
Кляймо,
Нам блізкі,
Не прыхадзень
Нейкі.

Прыдумаў яго
Зусім не француз,
Прыдумаў
Майстар нямецкі.
І вось музыка
Падкручвае вус
І грае
І ў Мінску,
І ў Клецку.

І вось у Кобрыне
І Лунінцы,



Слоніме
І Гародні
Скажуць дзяўчаты,
Пацвердзяць хлапцы —
Стаўся кларнет
Народным.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Кларнет складаецца з муштука з прымацаваным да яго трысняговым ці бамбукавым язычком, бочачкі, з дапамогай якой падстройваецца інструмент, верхняга і ніжняга кален з адтулінамі для пальцаў (7) і клапанамі (каля 20) і раструба, які ўзмацняе гучанне.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: У якой скорагаворцы цяжка вымавіць слова кларнет?





# КЛЯКОТКІ

У вясёлай працавітай цёткі Клаўдзі быў трохі ленаваты муж Ляксей. Трохі ленаваты і моцна невясёлы. Любіў Ляксей пасядзець за сталом у цішыні. Кожная муха яго раздражняла неверагодна. А калі камар — дык зусім па настроі жахлівы ўдар.

Адзінае, што не назаляла Ляксею, — біць дзвюма лучынамі па стале. Чуўся тады тонкі сухі трэск. Як казала пра яго цётка Клаўдзя: «Клясь ды клясь — не лезе Ляксей у гразь, сядзіць за сталом драўляным калом». Казала яна не з дакорам, а з гумарам, бо іначай і не магла вясёлая працавітая цётка Клаўдзя. Тым болей, што як ні дзіўна, клясканне ёй гэтае падабалася.

Толькі ж перад суседзямі няёмка было. Але ж колькі адкрыццяў у гісторыі чалавецтва было зроблена дзякуючы ляноце. Сядзеў гэтак пры стале Ляксей, сядзеў, кляскаў лучынамі і дакляскаўся да клякотак. Не лякайцеся, гэта не жахлівая хва-

роба, а цікавы інструмент.

Паглядзеў неяк на свой стол пахмурны Ляксей і выразаў з буку невялікі брусок прастакутнай формы. І з аднаго боку зрабіў глыбокую падоўжаную выемку, як у стале для лыжак. А замест лучынаў ужыў дзве доўгія палачкі з патаўшчэннем на канцы. І стаў біць палачкамі па бруску.

І цётка Клаўдзя не вытрымала. Кінулася танцаваць. І коткі сталі скакаць і мяўкаць. І Ляксей усміхнуўся. Вось такія яны, клякоткі.

* * *

А клякоткі
Не клякочуць,
Як буслы.
А клякоткі,
Нібы строгія паслы.
Стукнеш палачкай
Па дрэве —
Кляск.
А другою стукнеш —
Проста клас.
Не лякайся,
Як клякоткі загучаць.
Танчыць нам
Адразу
Трэба распачаць.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Выемка ў бруску выконвае функцыю рэзанатарнай паласці. Клякоткі робяцца з дрэваў цвёрдых парод — буку, грабу.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы мяркуеце, гучанне клякоткі вострае, сухое ці звонкае, яскравае?





# КЛЯШЧОТКІ

Даўным-даўно жыў у Маларыце майстар Малаахоўскі. Не стары майстар, а малады. З 14 гадоў пачаў майстраваць. Майстар, як той казаў, на ўсе рукі. Хоць, зразумела, рук у яго, як і ва ўсіх астатніх, было дзве. Залатыя, казалі, у яго рукі. Але на сонцы не ззялі.

Не ззялі, але што ні ўзяліся б рабіць, рабілі прыгожым і арыгінальным. Усе цешыліся, і майстар цешыўся. Адно засмучала майстра Малаахоўскага — ягонае прозвішча. У свеце так шмат не толькі красы і дабрыні, але і ліха. І калі «мала аховы» ад ліха — гэта нядобра.

І вось надумаў майстар, каб набыць ахову, дабрацца аж да Млечнага Шляху. Да Птушынага Шляху, як называюць яго беларусы.

Настругаў Малаахоўскі 20 дошак, бо столькі гадоў яму якраз споўнілася. І ў зорную летнюю ноч звярнуўся да Бога

з просьбай зрабіць іх ахоўнымі. Ды нечакана пачуў з нябёсаў голас, які казаў, што не варта лезці да неба, каб знайсці ахову. Бо нішто так не ахоўвае на зямлі, як музыка. Трэба толькі пераасэнсаваць тое, што ён пачаў рабіць.

Доўга майстар спрабаваў зразумець, як наблізіць да сябе музыку праз тыя 20 дошак, што ўжо выгабляваў. І нічога не атрымлівалася.

Не атрымлівалася, пакуль Малаахоўскі не закахаўся. А як закахаўся, прыйшло натхненне. Ён зрабіў 20 прастакутных дошчачак аднолькавага памеру. Каб яны шчыльна не прылягалі адна да адной, паміж імі змясціў маленькія папяровачныя пракладкі. У верхняй частцы кожнай дошчачкі, як і ў пракладках, прасвідраваў па дзве адтуліны. Усе дошчачкі, чаргуючы з пракладкамі, нанізаў майстар на пяньковую вяроўку, канцы якой завязаў у колца.

І на сваім вяселлі, што было ў залатую восень, узяў майстар вяроўку ў рукі і стаў рухаць адначасова правай рукою ўверх, а левай — уніз, і наадварот, вяртаючыся назад. І пачулі ўсе госці каларытнае рассыпістае гучанне незвычайнага інструмента. І калі ў каго і было што ліхое, рассыпалася яно і знікала. Мала станавілася ліха, а Малаахоўскіх усё болей і болей. Бо неўзабаве з'явіліся ў закаханых дзеткі, а пасля і ўнукі.

А кляшчоткі дапамагаюць усім, хто грае на іх без прынукі.

* * *

Ці з бярозы, ці з кляночка,
А ці з дуба вечнага
Рабіў майстар аж да ночкі
Слуп да Шляху Млечнага.
Настругаў ён дваццаць дошак,
Адна ў адну роўныя,




І звярнуўся: «Святы Божа,
Іх зрабі ахоўнымі».

«Лепей ты не лезь да неба, —
Мовіў Божа сцішана, —
Будзе ўсё тады як трэба,
Як музыка набліжана».

Доўга´майстар завіхаўся,
Мяняў дошкі, шчоткі.
А як толькі закахаўся,
Вырабіў кляшчоткі.

Берагуць яны пяшчоту
Майстра і каханай,
Адганяюць дождж і слоту
Музыкай жаданай.

Інфармацыя для вундэркіндаў: У кляшчотках можа быць ад 14 да 20 дошчачак. Для таго каб кляшчоткі гучалі звонка, іх вырабляюць з добра высушанага дубовага, кляновага ці бярозавага дрэва.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы мяркуеце, вясёлыя ці сумныя песні лепей спяваць пад кляшчоткі?



## ЛЕРА, альбо ЛІРА

У многіх краінах свету ёсць людзі, якія ў народзе ўважаюцца выразнікамі ягоных думак, носьбітамі дабрыні і справядлівасці. Не вынятак і Беларусь.

Такімі выразнікамі душы народа ў мінулыя стагоддзі былі лернікі — жабракі-старцы, якія здабывалі сабе сродкі на жыццё спевамі ў суправаджэнні леры. Яны вандравалі па вёсках, у дні кірмашоў і фэстаў прыходзілі ў гарады і мястэчкі.

Беларусы заўжды прыслухоўваліся да тых, хто абдзелены Богам здароўем, але не душою. Лернікі часта былі сляпымі, кульгавымі альбо мелі іншыя хваробы. Але ім было дадзена болей пранікнёна і моцна адчуваць жыццё.

Сваім выкананнем лернікі абуджалі ў людзях памяць пра мінулае. Іх духоўныя, павучальныя альбо гістарычныя песні дапамагалі выжыць у цяжкія перыяды.

Хто яго ведае, ці так было, ці не, але існуе легенда, чаму

выразнікі думак народа абралі сабе менавіта леру і сталіся лернікамі.

Жыў малады прыгожы хлопец Сымон. Вясёлы і легкадумны. І вельмі любіў ён музычныя інструменты рабіць. Але ж рабіў іх абы-як. І, зразумела, абы-як яны і гралі.

Жыў малады прыгожы хлопец, але ж жыццё таксама жыло, і паступова Сымон станавіўся ўсё старэйшым і старэйшым. Адно што легкадумнасць у яго так і заставалася.

Але ж і ён нарэшце задумаўся пра сэнс жыцця і захацелася яму зрабіць інструмент, які сімвалізаваў бы кола жыцця. Доўга ён працаваў над ім. Так доўга, што нават легкадумнасць кудысьці знікла, а інструмент усё не нараджаўся.

А калі нарадзіўся, Сымон ужо ператварыўся ў сівога старога. Захацеў разгледзець сябе ў люстэрку, а аказалася, што не бачыць сябе ў ім. Бо аслеп зусім.

Адно што засталося Сымону — круціць корбу свайго інструмента, ад якога ішоў моцны, тужлівы, манатонны гук. І пакіраваў гэты гук Сымона па свеце. І прывёў у сэрцы людзей, у іх думкі, у іх спадзяванні. І наблізілася колавая ліра да кола жыцця, як і марыў Сымон.

І вось з тых часоў жыве гэты глыбокі інструмент у глыбіні душы кожнага беларуса. Варта хоць аднойчы пачуць яго.

* * *

Я прачыню вам
Дзверы
Ў свет старажытнай
Леры.
Яна гучыць
Магутна,

На ўсе стагоддзі
Чутна.

А гралі на ёй
Лернікі —
Ад музыкі ўсе
Вернікі.

Хай лернікі
Жабрачылі,
Князі ім нават
Дзячылі.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Лера мае драўляны корпус, да верхняй часткі якога прымацаваная скрынка з калкамі. Меладычныя струны праходзяць унутры прадаўгаватай скрынкі, размешчанай на верхняй дэцы. Даўжыня іх гучальнай часткі і вышыня тону змяняюцца пры націсканні выступаў на другім канцы клавіш. Бурдонныя струны размешчаныя па-за скрынкай. Гук узнікае пры трэнні аб струны кола, якое прыводзіцца ў рух з дапамогаю корбы, якую музыка круціць.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Якая частка леры выконвае тую ж функцыю, што смык у скрыпцы?



# МАНДАЛІНА

Здарылася гэтая гісторыя не так і даўно — у сярэдзіне 19 стагоддзя. Здарылася не дзесьці далёка, а ў мястэчку Шарашова Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Жыў у той час у гэтым мястэчку хлопец Лявон, які вельмі любіў спрачацца. Хто што ні скажа, а ён гаворыць наадварот і падбівае да спрэчкі. І хоць часцей за ўсё ён прайграваў, усім гэта надакучыла, і ніхто болей не хацеў спрачацца.

Аднойчы ў Шарашова прыехалі музыкі: скрыпач, гітарыст і гарманіст. Ах, як яны гралі, нават абыякавыя да музыкі людзі і тое здзіўляліся! А музыкі апантана хвалілі свае ўлюбёныя інструменты, казалі, што няма ніводнага інструмента лепшага за іхнія.

І тут прыйшоў зорны час Лявона. Ён якраз незадоўга да гэтага прыехаў з Італіі і чуў там інструмент, які яго самога так уразіў, што ён нават забыўся, што хацеў перад гэтым

паспрачацца. Інструмент гэты меў моцна пукаты, склеены з асобных сегментаў, корпус авальнай формы і чатыры парныя струны. Чысты звонкі гук здабываўся з дапамогай медыятара. Гэта была мандаліна. І вось цяпер Лявон паспрачаўся з музыкамі, што ёсць неверагодны інструмент. Ён гучыць гэтак жа бліскуча, як і скрыпка, але іграць на ім лягчэй. Гітара гучыць грубавата, а ён — тоненька і прыемна. І спяваць пад гэты інструмент лепей, чым пад гармонік. І патлумачыў пакрыўджаным музыкам, што гэта мандаліна. Дамовіліся Лявон і музыкі так: знойдуць яны мандаліну, паслухаюць, а праз год прыедуць у Шарашова і, калі праўду сказаў Лявон, аддадуць яму прайграныя грошы.

Ужо і Лявон быў забыўся пра гэтую спрэчку, а год прайшоў і музыкі прыехалі і пагадзіліся, што прайгралі.

Атрымаў Лявон грошы і ахвяраваў іх на Траецкі касцёл, што ўпрыгожваў Шарашова.

І таму, калі наведаеце Шарашова і завітаеце ў Траецкі касцёл, не здзіўляйцеся, што на адной з фрэсак ёсць выява анёла з мандалінай. Прыслухайцеся, і ён для вас абавязкова зайграе.

* * *

Параўноўваць
Са скрыпкай
Можна.
Не,
Не вонкава,
Бляскам
Гучання.
Ды ўжо ведае
Ледзьве



Не кожны:
Мандаліна —
Лягчэй для іграння.

Спалучаць,
Дык найлепей
З гітарай —
Меладычную
З гарманічнаю.
Як зайграюць
На свяце
На пару,
Дык прыўкрасяць
Жыццё й сталічнае.

І пявучая
Болей, чым гармонік,
І спяваць з ёю
Болей шляхотна.
Як пачуеш яе —
Ты палоннік,
Што ў няволю
Ідзе ахвотна.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Кожная пара струн мандаліны мае назву: «першая», «другая», «падбасак» і «басок». Пляскатая мандаліна называецца «мандола».

Пытанне для маленькіх разумнікаў: У якой краіне нарадзілася мандаліна?

# ПІШЧЫК



Кожны беларус ведае, што беларусы ніколі не прападуць. А тым болей не прападуць беларускі. Бо яны вельмі жывучыя. Бо ў Беларусі Бог жыве. І жыве ён і ў лясах і на гарах, і ў азёрах і ў рэках, і на лугах і на палях.

А на палях, апрача ўсялякай іншай красы і сілы, жыта расце, а ў жыце жывуць кветкі — васількі. А беларускі з васількоў вянкі плятуць, плятуць і песні пяюць. А як жыта саспее, жыта жнуць.

А там, дзе жыта, там і салома. Салома лічыцца спелай не тады, калі заканчваюць жаць, а тады, калі пачынаюць жаць. І няма найлепшых лекаў для беларуса, як прайсціся басанож па саломе. Гэта вам не нейкае іголкаўколванне ўсходняе, а роднае паколванне.

Беларус з саломы можа ўсё зрабіць. І нават дзякуючы саломе закахаць у сябе.

Жыў-быў у палескай вёсцы не Саламон, а Саламевіч.

Саламевіч Янка, што вясёлы зранку. І працавіты да вечара. І да ночы спяваць ахвочы. Некаторыя думалі, што ягонае прозвішча ад «сала мецъ». Але ён ні ў якую не пагаджаўся і сцвярджаў, што яно ад «саломы» паходзіць.

Неяк пабачылі ягоныя вочы прыгажуню з косамі колеру залатой саломы. Звалі яе Агата. Вядома ж, жаніхоў багата. Хто абяцае вялікую хату. Хто каралі, што нават каралі не бачылі. Але ж Агата нікому не кажа ні «так», ні «ага». Жыта жне і спявае, каханага чакае.

А Янка і не ведае, як падысці да Агаты, як сказаць пра сваё пачуццё. Прыйдзе ўвечары на поле, дзе ейнае жыта расце, ходзіць, саломінкі ў руках перабірае і марыць пра красуню.

Аднойчы зусім расхваляваўся, сеў і стаў выразаць для супакаення адтулінкі ў саломінцы. Паглядзеў: падобна да саламянай дудачкі. Прыклаў да вуснаў — і палілася над вёскаю светлая мелодыя кахання. Пачула яе Агата, выйшла зірнуць, хто грае. І закахалася ў Янку. Выйшла замуж і стала Агатай Саламевіч. Не ад «сала мецъ», а ад саломы. А саламяны пішчык стаў сімвалам іх шчасця.

* * *

Беларусы
Могуць граці
Нават
На саломе.
Ім
Ніколі не прапасці
Ў жыцця
Крыгаломе.
Хай салома
Будзе спелай,

Але
Не зялёнай,
Хай не будзе
Пераспелай,
Будзе пранікнёнай.

Пішчык,
Пішчык саламяны —
Наш імправізатар.
Пішчык,
Пішчык палымяны —
Пайграць нам
Заўзятар.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Пішчык бывае без ігравых адтулін і дае пры ігры толькі адзін гук. А можа мець ад чатырох і болей ігравых адтулін.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы думаеце, ад якога дзеяслова паходзіць назва гэтага інструмента?





# РАГУЛЬКА

Было гэта пад Рагачовам. Жыла-была гаспадыня. Хоць і была яна немаладая, але такая жвавая і вясёлая, што, як і ў маладосці, яе звалі Ганулька.

Ганулька трымала карову. З тае прычыны, што карова была рагатая і да таго ж такая вясёлая, як і гаспадыня, яна атрымала імя Рагулька.

Цяжка бывала даць рады Рагульцы. Бо што хацела, тое і вырабляла. Але ж вельмі смачнае малако давала. Усе суседскія ўнукі з задавальненнем пілі і сырадой, і сыраквашу, елі і смятану, і масла, і тварог, з яго выробленыя. Хвалілі суседкі і Ганульку, і Рагульку.

Прыйшоў час і ў Ганулькі з'явіўся свой унук, а за ім яшчэ адзін, і яшчэ. Ажно сем хлопчыкаў і дзяўчынак гойсалі ў двары. Але ж у адрозненне ад суседскіх дзяцей не цанілі яны тое, што маюць: не хацелі піць малачка, не хацелі есці і масліца.

Пакрыўдзілася на іх Рагулька і перастала даваць малако. І толькі тады зразумелі малыя гарэзы, як ім не стае і сырадою, і сыраквашы, і сыра.

Сталі яны прасіць Рагульку даць малака. А тая ходзіць сумная, толькі з вачэй слёзы коцяцца. Ні сену свежаму не радая, ні хлебу.

Не ведалі, як развесяліць Рагульку. Не ведалі, пакуль самы малы ўнучак Тамаш не напяў паміж канцамі звычайнай драўлянай рагуліны дрот з вольна слізгаючымі металічнымі талерачкамі. Узяў ён рагульку ў руку і стаў устрэсваць яе, адначасова рухаючы ўлева-ўправа.

І карова Рагулька, пачуўшы гукі рагулькі, так усцешылася, што ёсць музычны інструмент, створаны ў яе гонар, што стала зноўку малачко даваць, ды яшчэ смачнейшае, чым было. Прынамсі, так Ганульчыны ўнукі сцвярджалі.

* * *

Нашая рагулька —
Слаўная бабулька.

Ладная пастава,
Бо ўсё жыццё
Рухава.

Замест косаў —
Гулькі,
Зручна
Для бабулькі.




Пацеркі прыўкрасны,
Музыка ў яе
Класны.

Часам бразгатліва,
Але не буркліва.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Металічныя талерачкі выразаюць з медзі, латуні ці бляхі.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Якую дзіцячую цацку, што так любяць хлопцы, нагадвае рагулька?





# РОГ

Жыў на свеце музыка. І калі ён быў цудоўны музыка, дык і граў цудоўную музыку. Пра добрага майстра кажуць: майстар на ўсе рукі, а ён быў музыка на ўсе гукі. І на цымбалах сыграе, і на скрыпцы, і на дудзе, і на варгане. Таму і запрашалі яго на ўсе святы: хто дачку замуж аддае, у каго сын нарадзіўся. А тут і Каляды надышлі — як на іх без музыкі?!

А ў вольны час захапляўся музыка паляваннем — старажытным мужчынскім заняткам. Але ж і без музыкі было яму сумна ў лес хадзіць. Ні цымбалы, ні басэтлю, ні мандаліну не возьмеш — завялікія, нязручна, варган і вугольнік — ціхія, акарына пабіцца можа, пішчык — паламацца. І якія інструменты ні спрабаваў з сабою браць, усе здаваліся не тымі.

І вось аднаго разу ён нечакана звярнуў увагу на рог быка, які дзеля прыгажосці ляжаў на акне. Звярнуў і выразаў у ягоным вусці невялікае паглыбленне для вуснаў — муштук. Прыклаў рог бліжэй да правага кута рота. І нарадзіліся

дзіўныя гукі. Гукі, якія абудзілі страсць і пачуцці, гукі, ад якіх з’явілася неадольная прага ісці на паляванне.

З таго часу ні ў музыкі, ні ў іншых не было сумнення, з якім інструментам хадзіць на паляванне.

І праз шмат стагоддзяў рог стаў гербавым знакам сямейства Радзівілаў. Бо вельмі любілі яны і паляванне, і музыку.

* * *

Няма ігравых адтулін
У розе,
Таму з ім надзейна
Заўсёды ў дарозе.

Таму з ім ідуць
Не на баляванне,
А на сапраўднае
Паляванне.

Таму
І ў Гусоўскага
У Міколы
Страсць абуджае
Рога сола.

І хай ён з рога
Быка ці каровы,
А моцны, як зубр,
І як зубр,
Здаровы.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Рог гучыць у знакамітай «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага, напісанай у 16 стагоддзі.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы думаеце, з рога якіх яшчэ жывёл вырабляецца музычны інструмент рог?





# СВІСЦЁЛКА, альбо ПАСВІСЦЁЛ, СВІСТОК, СВІШЧЫК

Жыў-быў у Зэльве ганчар Зянон з жонкаю Зосяю. Зянон вырабляў з гліны міскі і кубкі, гарлачыкі і вазы. А Зося іх размалёўвала, рабіла прыгожымі і унікальнымі. Далёка-далёка ад Зэльвы ведалі іхнія вырабы, прыязджалі па іх з далёкіх куткоў, бо казалі, што ў іх посудзе ежа і пітво смачнейшыя, малако болей захоўваецца, кветкі даўжэй стаяць.

І нічога ў гэтым дзіўнага і не было, бо закаханыя ўкладалі свае душы ў кожную рэч.

Зянон да таго ж вельмі любіў гадаваць коней, а Зося — качак. Але не размнажаліся ў іх гаспадарцы ні коні, ні птушкі. Ды і дзеткі, пра якіх так марылі Зянон і Зося, не з'яўляліся ў сям'і. Вельмі перажывалі закаханыя, не ведалі, што рабіць. Пакуль старэнькая суседка Марына не параіла ім вылепіць з гліны абярэгі: выявы жывёл, каб быў

прыплод, птушак, каб надыходзілі цёплыя дні, лялек — для прадаўжэння свайго роду. Але дадала, што гэтыя фігуркі, каб дапамагаць, павінны свой голас мець.

Зрабіць прыгожую фігурку Зянону і Зосі было нескладана. Але ж, каб у яе голас быў!.. Доўга думалі яны і нарэшце прыдумалі: зрабілі ў фігурак гліняны корпус з рэзанатарнай яйкападобнай поласцю, свісток з вузкай шчылінай, свістковую адтуліну-«акенца» і некалькі іграўых адтулін.

І стала запаўняцца хата закаханых свісцёлкамі: пеўнікамі і качачкамі, паненкамі і вершнікамі. І нават птушка-конь з'явіўся. Конь ва ўяўленнях нашых продкаў быў сімвалам Сонца, а птушка — сімвалам Зямлі і Неба. Спалучэнне каня і птушкі сімвалізавала еднасць прыроды.

І сапраўды сталі добра гадавацца ў Зянона і Зосі коні і качкі. І дзеткі пайшлі — слава Зэльвы і Беларусі.

* * *

А свісцёлка,
Або свішчык,
Так свісціць,
Бы вецер свішча.

А свісцёлка,
Ці свісток,
Узбадзёрыць,
Нібы ток.

А як чуеш
Пасвісцёл,
Свет свісціць



Цябе наўкол.

Як свісцёлка,
Нібы птах,
Сэрца б’ецца
Тах-тах-тах.

Як у выглядзе
Каня —
Не кране цябе
Мана.

А калі
То птушка-конь —
Спаліць зло,
Нібы агонь.

Інфармацыя для вундэркіндаў: У свісцёлцы можа быць ад адной да чатырох іграавых адтулін. Найбольш часта сустракаецца свісцёлка з дзвюма іграавымі адтулінамі.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Ці можа свісцёлка быць дзіцячай цацкай?



# СКРЫПКА

Цячэ ў Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці рака Скрыпіца. Толькі яна, відаць, і ведае ўсю праўду пра нараджэнне скрыпкі. Але кожны чуе ў прыродзе сваё. Так і дзяўчынка Адэлька пачула тое, што схацела пачуць, — прыўкрасную беларускую версію.

А слухала Адэлька раку Скрыпіцу невыпадкова, бо яшчэ ў 14 стагоддзі ў Беларусі быў пашыраны трохструнны смычковы інструмент пад назваю «скрыпіца» з многімі прыкметамі скрыпкі. І назвалі гэты інструмент, як распавядала рака, у яе гонар. Бо той чалавек, які зрабіў скрыпіцу, вельмі любіў ваду і любіў слухаць, як гучыць інструмент па-над жывым люстэркам, у якім плывуць аблокі.

Адэлька, як дзяўчынка разумная, вельмі любіла чытаць энцыклапедыі. І вычытала, што працэс фармавання перадкласічнага тыпу скрыпкі закончыўся ў Польшчы ў канцы

15 стагоддзя, а цягам 15—16 стагоддзяў майстры Італіі, Польшчы і Францыі выпрацавалі класічную скрыпку.

«Як жа так, — запыталася Адэлька ў Скрыпіцы, — а чаму ж пра Беларусь нічога не напісана?» «Не звяртай увагі, — загайдалася рэчка, — беларусы добры народ, ён ніколі суседзям свайго не шкадаваў. Хоць і не варта так раскідвацца было, але што цяпер паробіш. Ты лепей паслухай яшчэ раз скрыпку і адчуеш, што душа ў яе — беларуская. І не важна, дзе яе стваралі — ці ў Італіі, ці ў Францыі. Скрыпка ж таму і адзін з найбольш улюбёных інструментаў беларусаў — колькі казак, загадак, легендаў, песень пра яе складзена».

Адэлька ведала і казкі, і загадкі, і легенды, і песні, але як аматарка энцыклапедый ізноў зазірнула ў артыкул «Скрыпка». У ім яна прачытала, што ў скрыпкі ёсць талія (выразы па баках на авальным корпусе скрыпкі), грудзі (верхняя дэка), плечы (ніжняя дэка), шыйка, бачкі. «Гэта ж найбольш блізкі да чалавека інструмент», — падумалася Адэльцы. І галоўнае, галоўнае — у яе ёсць душа (падстаўка для струн), прычым у прафесійным інструменце яна стабільная, а ў народным — рухомая.

Адэлька абрала сабе скрыпку з вольнай душою, бо і ў яе была душа вольная ад зайздрасці і падману, ляноты і здрады. І дзе б яна ні грала на ёй — над ракой Скрыпіцай ці ля Вострай Брамы ў Вільні — гучыць беларуская душа.

* * *

Скрыпка —
Нібы мадэлька
Ў хваёва-кляновым бодзі.
Грае на ёй
Адэлька,

Скрыпка
Заўсёды ў модзе.
Скрыпка ў Адэлькі
Не з крамы,
Таму і душа яе
Ў руху.
Побач
З Востраю Брамай
Льюцца ў нябёсы
Гукі.
Смык,
Нібы сам вядзецца,
Шкадуе руку
Дзяўчынкі.
Ніколі не наглядзецца
На скрыпку
І аблачынкі.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Агульная даўжыня скрыпкі каля 60 сантыметраў. На думку многіх музыкаў, скрыпка — надта цяжкі для авалодання інструмент. Скрыпку музыкі, які грае на вяселлі, як і нявесту, упрыгожваюць стужкамі і кветкамі.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: У скрыпцы чатыры струны. У народнай тэхніцы выкарыстоўваюцца пераважна тры струны. Пра якога італьянскага скрыпача існуе легенда, што ён мог сыграць на адной струне?





# ТАЛЕРКІ

Усё ў жыцці так ці іначай звязана з сям'ёй і каханнем. Гэтак ёсць і цяпер. Гэтак было і ў старажытныя часы.

Жылі-былі муж і жонка. Як той казаў, жылі ды дабра нажывалі. Казаў, ды не пра іх. Бо вельмі ўжо любіла жонка ледзьве што посуд біць, асабліва талеркі. А можа, і не яна вельмі любіла той посуд біць, а ён сам любіў біцца ў гэтай жонкі. Хто ж яго ведае. Вельмі даўно тое было, цяжка да канца разабрацца.

Адно вядома, што не магла гэтая сям'я дабра нажыць, бо ўсе грошы, а можа, і талеры, сыходзілі на набыццё новых талерак.

А другое вядома, што муж вельмі любіў… Не, не біць, а проста любіў жонку, прыгажуню і разумніцу, вясёлую і арыгінальную. І каб выратаваць сямейны дабрабыт, замовіў дзве металічныя талеркі.

Нічога лепей і прыдумаць было немагчыма. Мала таго, што талеркі можна было біць колькі заўгодна, а яны не біліся, дык калі яшчэ біць адна аб адну, гукі жывыя ўтвараліся.

Тады замовілі муж і жонка яшчэ малых і вялікіх металічных талерак. І не маглі набіцца-нарадавацца. Але змаглі паступова дабра нажыць, бо талерак ужо набываць не трэба было.

А аднойчы яны вырашылі талеркі і для ўпрыгожання замовіць — металічныя дыскі з чашападобнымі ўзвышэннямі ў цэнтры і адтулінамі для прасоўвання вяроўкі.

А як атрымалі іх і стукнулі адна аб адну, зразумелі, што гэта не простае ўпрыгожанне, а незвычайны музычны інструмент.

Ён не б’ецца на шчасце, а грае.

* * *

Дзіва-дзіўнае —
Талерка
На рэмені
Трымаецца.
Дзіва-дзіўнае —
Валерка
З кашай
Упраўляецца.

Як талеркамі
Ён стукне,
Крык
Не пачынаецца.
Нават дзед
З усмешкай ухне —



«Метал» падабаецца.

На талерачках з металу
Вельмі добра
Граецца.
Каб яны
Гулі-лcraталі,
Валерка
Наядаецца.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Паводле памеру і характары гучання талеркі бываюць малыя, сярэднія, вялікія, «турэцкія» (яркага гучання), «кітайскія» (з прыгукам гонга), педальныя («чарльстон», ці джазавыя), «антычныя» («кроталы», найбольш малыя паводле памераў) і інш.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: У якім інструменце выкарыстоўваюцца талеркі?





# ТРАШЧОТКА

У невялікай палескай вёсцы жылі цётка Ізотка і дзядзька Генадзька. Гэта іх так у вёсцы называлі — цётка і дзядзька, а былі яны мужам і жонкаю. Кахалі адно аднаго і дзяцей любілі.

Адна была праблема ў дзядзькі — вельмі ўжо гаваркая была цётка Ізотка. Яно часам і вельмі добра было, што трашчыць, не спыняецца жонка. Вось, да прыкладу, возьмеш яе на паляванне, дык ніхто лепей у час загону ваўкоў ці зайцоў не дапаможа. Або, крый Божа, паводка пачнецца — ніхто лепей усю вёску не папярэдзіць.

А ўжо як надыдуць Каляды і чарада калядоўшчыкаў рушыць па хатах, ніхто так не дадасць настрою, ніхто неператрашчыць карнавальны гармідар, як цётка Ізотка. І ўжо, як зойдзе яна ў якую хату, дык гаспадар добрыя торбы смакоцця накладзе. Бо якія ж Каляды, калі не трашчыць мароз і цётка Ізотка?!

Але ж не штодзень паляванні, паводкі ды Каляды. А трашчыць цётка штохвіліны, і дзядзьку разумнае слова цяжка ўставіць. І замоўк зусім дзядзька. Сядзіць сабе, назірае за цёткай і думае. Думаў-думаў і надумаў.

Зрабіў дзядзька рабрысты валік з ручкаю, да якога прымацаваў рабрыстую рамку з тонкім гнуткім язычком-пласцінкай, канцы якой упіраюцца ў зубцы валіка. Калі рамку круціш, язычок саслізгвае з аднаго зубца на другі, утвараючы моцны сухі надтрэснуты гук. Мацнейшы, чым у цёткі Ізоткі.

Зрабіў дзядзька Генадзька, і праблема вырашылася. Толькі захоча ён цётцы нешта сказаць, пакруціць рамку, цётка і змаўкае, слухае.

І сталі цётка Ізотка і дзядзька Генадзька яшчэ болей адно аднаго кахаць, дзетак любіць і, вядома ж, цётку-трашчотку.

* * *

Трашчыць-трашчыць
Трашчотка —
Вясёленькая
Цётка.

Трашчыць —
Не замінае.
Не часта
Так бывае.

Адпужвае
Злых духаў,
Таму не страшна
Вуху.

А на Каляды
З ёю
Парадуюць
Свіннёю,

Каўбаскамі
І рулькамі,
Цукеркамі
І булкамі.

Бо трэсне як
Трашчотка,
Усё аддасць
Вам цётка.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Часам у трашчотцы зубцы замяняюцца металічнымі цвічкамі, а драўляны язычок металічным.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы думаеце, чым адрозніваецца гучанне трашчоткі з драўляным язычком і з металічным?



# ТРУБА

У тыя часы, калі жылі ў Беларусі побач з людзьмі асілкі, жыў-быў на Віцебшчыне асілак Уладзя. Ягоныя старэйшыя браты-асілкі дубы з каранямі выварочвалі, валуны перакочвалі. А Уладзя кароў пасвіў. І не таму, што яму не пашанцавала. А з таго, што вельмі любіў малако, прыроду і адзіноту.

Многія нават смяяліся з яго. Але ён не звяртаў на кпіны ніякай увагі, бо асілкі заўжды былі незалежныя ад чужых меркаванняў. Шмат назіраў, шмат думаў і любіў паслухаць, як граюць музыкі на розных інструментах. І самому часам хацелася сыграць, але ніяк не мог вырашыць, які інструмент яму абраць.

Аднойчы прысніў ён незвычайны сон: зайграў першы раз на доўгім-доўгім інструменце і вясна прыйшла. А зайграў другі раз — восень наступіла. Прачнуўся Уладзя здзіўлены.

Падумаў-памаракаваў і зразумеў, што гэта знак ягоную мару граць спраўджваць.

Знайшоў каля пашы яліну, выразаў з яе кавалак у два метры, разрэзаў на дзве паловы. Апрацаваў, склаў і сцягнуў у некалькіх месцах дротам, а швы паміж імі заліў смалой. Затрубіў, і пачаліся сапраўдныя дзівосы.

Як Улад затрубіць, каровы адразу ж збіраюцца, каб ісці на лепшае месца. Гаспадыні зранку чуюць, што кароў трэба на пашу выводзіць, а ўдзень, што трэба ісці даіць. Увечары Улад грае і самому весела. А ўначы ваўкі трубы палохаюцца.

Дзівосы то дзівосы, яны значна лягчэйшым жыццё зрабілі. Але ж, што значыў сон Уладзі? А тое, што паступова труба не толькі кароў і іхніх гаспадыняў стала гукаць, але і вясну, і восень. Калі гукалі вясну, гралі на трубе і падкідалі ўгару выпечаных з цеста жаўрукоў. А ў дзень прыходу восені адбываліся спаборніцтвы ў гранні на трубе.

Паступова ўзнік звычай на Вялікдзень страляць, біць у катлы і трубіць у трубы. Але ў час паўстання Кастуся Каліноўскага ён быў забаронены ўладамі. Забаронены, бо вельмі гэтыя ўлады баяліся, што гукі труб могуць быць выкарыстаныя паўстанцамі ў якасці сігналу да выступу.

Палохалася кепская ўлада, як грала труба Улада. А як затрубіць для добрых людзей Улад — усё ідзе на лад.

* * *

Трубой
Сустракаюць вясну
І восень
Праводзяць.
А ранкам
З трубой не да сну —



Кароваў
На пашу выводзяць.

Пастух без яе —
Не пастух.
Пастух без яе —
Не творца.
Затрубіць —
І зойме дух,
Душу ён падорыць
Зорцы.

Трубу вырабляюць
З кары
Алешыны, ліпы,
Рабіны.
Хай творчыя лесу
Дары
На музыку йдуць,
Не драбіны.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Труба — найбольш доўгі ў беларусаў музычны інструмент, яго памеры могуць быць ад аднаго да двух з паловаю метраў.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы мяркуеце, ці магла выкарыстоўвацца труба ў вайсковай справе?



## ЦЫМБАЛКІ, альбо БРУСОЧКІ, СМАЛІНКІ

У 1806 годзе ў горадзе Шклове Магілёўскай губерні нарадзіліся два хлопчыкі: Міхась Гузікаў і Пятро Пузікаў. Жылі яны ў суседстве і таму з маленства бавілі час разам: і па лужынах гойсалі, і птушак ганялі, і малявалі, і… А вось на цымбалках граў толькі Міхась, а Пятро смяяўся з сябра. «Хіба гэта інструмент? — казаў ён. — Дрэва ды салома — смех дый годзе».

І, сапраўды, цымбалкі рабіліся не меней як з 10 хваёвых брусочкаў аднолькавай таўшчыні, але рознай даўжыні. Іх укладвалі паралельна на двух жмутках жытняй саломы, моцна перавязаных у некалькіх месцах.

Але Міхась не зважаў на кпіны сябра. Ударамі маленькіх драўляных малаточкаў здабываў моцныя, але мяккія, прыемнага тэмбру гукі рознай вышыні. Падабалася, як грае Міхась, і дзяўчаткам, і бабулям. А Пятро не здаваўся: «Дрэва ды сало-

ма — смешна і малому».

Аднойчы Міхась прапанаваў пайсці ў заклад, што ягоныя цымбалкі будзе слухаць уся Еўропа. Калі выйграе Міхась, Пятро навучыцца граць на цымбалках, а калі выйграе Пятро — Міхась ніколі болей не будзе граць на ўлюбёным інструменце. Пятро пагадзіўся і… прайграў.

У пачатку 1830-х гадоў Міхась на аснове ўдасканаленых цымбалак распрацаваў сучасную канструкцыю ксілафона і канцэртаваў у Аўстрыі, Германіі, Бельгіі, Францыі. Выконваў і апрацоўкі беларускіх народных песень, і творы Нікола Паганіні, і варыяцыі на папулярныя оперныя мелодыі. А калі ў 1836 годзе аўстрыец Шлезінгер выдаў брашуру «Міхась Гузікаў і ягоны інструмент з дрэва і саломы», Пятро зразумеў, што прайграў. І сам зайграў на знакамітых цымбалках.

* * *

А цымбалкі —
Не цымбалы
І не струны ў іх,
А дрэва.
Інструмент
Даволі сталы,
Беларусам
Стаўся крэўным.

Вырабляецца з сасны,
Жытняе саломы.
Мякка ён гучыць,
Як сны,
У якіх няма ўжо
Стомы.

І ужо зусім не сон,
А гісторыя і ява:
Чуў цымбалкі
Мендэльсон,
Любаваўся,
Нібы павай.

А цымбалкі —
Не цымбалы,
Хоць і б'юць іх
Малаточкі.
Інструмент
Даволі сталы,
А ў дзяцей
Зіхцяць аж вочкі.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Паколькі брусочкі розняцца даўжынёй, то і гукі, што ўтвараюцца пры ўдары па іх, маюць розную вышыню: чым даўжэйшы брусочак, тым ніжэйшы гук; чым брусочак карацейшы, тым гук вышэйшы.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Як вы думаеце, чаму цымбалкі называлі яшчэ смалінкамі і брусочкамі?



# ЦЫМБАЛЫ

Было гэта ля возера Нарач. На паўднёвым беразе жыў пан Стэфан, а на паўночным — пан Раман. У адну залатую восень яны ажаніліся з красунямі. А ў наступную залатую восень нарадзіліся ў іх сем'ях сыны. У Стэфана — Вітаўт, а ў Рамана — Кароль.

Сыны нарадзіліся, і, згодна з беларускай традыцыяй, сталі бацькі рыхтавацца да хрэсьбінаў. А якія ж хрэсьбіны без цымбалаў! Так, было прынята, каб разлятаўся на хрэсьбінах над Нараччу гук цымбалаў — яркі, галосны і звонкі. Каб такі ж яркі лёс быў у дзяцей.

Але калі пан Стэфан быў чалавекам добрым, спагадлівым і вясёлым, дык пан Раман вызначаўся змрочнасцю і сквапнасцю. Ды так вызначаўся, што не захацеў да пана Рамана цымбаліст ісці на хрэсьбіны ні за якія грошы. Тым болей, што ведаў, як пан Раман не любіць музыкаў, лічыць іх гультаямі,

што поле не аруць, пшаніцу не сеюць, на яго не працуюць.

Весела было на хрэсьбінах Вітаўта і сумна на хрэсьбінах Караля. І так яны і раслі: Вітаўт — вясёлы, жыццярадасны, а Кароль — хваравіты, пахмурны.

Што толькі ні рабіў пан Раман, каб развесяліць сына, каб паправіць ягонае здароўе. Нічога не дапамагала, пакуль аднойчы нарачанскі чараўнік не сказаў, што адзінае выратаванне — навучыцца Каралю граць на цымбалах, стаць цымбалістам.

І вось зрабілі пляскаты корпус трапецападобнай формы з елкі, што вырасла на сонцы. А пасля напялі 12 металічных струнаў. І як толькі паклаў Кароль цымбалы на калені і ўдарыў па струнах двума малаточкамі, адразу ж павесялеў. І хутка ад ягонай пахмурнасці і следу не засталося. І пан Раман змяніўся ў лепшы бок і заўжды казаў: «Увесь цымус не ў балях, увесь цымус у цымбалах».

* * *

Сёння будзем
Ладзіць баль
Пад шыкоўны гук
Цымбал.
Гэта толькі падаецца,
Што з нас нехта
Пасмяецца.
Бо ў цымбалаў
Цымус той,
Што не ўстоіш,
Як ні стой.
Тут такія будуць
Танцы,




Што бабуля скажа:
«Шманцы».
Скажа «шманцы»,
Ды да нас,
Паказаць усім
Свой клас.
Скокі будуць
Аж да неба,
Дзецям іншых
І не трэба.
Грацьме так
Наш цымбаліст,
Як не граў
І Ферáнц Ліст.

Інфармацыя для вундэркіндаў: У адрозненне ад прафесіяналаў народныя музыкі не глушаць некаторыя струны ў пэўны момант, таму ўзнікае маляўнічае гучанне-трымценне.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Назавіце беларускага першадрукара, у кнігах якога ўпершыню згадваюцца цымбалы?



# ШАРХУНЫ, альбо БОМЫ, ШАЛКАНЫ, ШУМКІ

У гэтай гісторыі будзе канец такі ж, як і ў большасці казак. І тады няма нічога незвычайнага ў тым, што і пачатак у яе такі ж, як і ў большасці казак. Адзіная розніца — не будзе ў герояў імёнаў. Назавём іх Беларус і Беларуска. Зразумела, жылі яны ў Беларусі. А канкрэтна вызначаць месца не варта, бо магло гэта адбыцца ў якім заўгодна горадзе, мястэчку ці вёсцы.

Бо, як і цяпер, даўно-даўно мог жыць у горадзе, мястэчку ці вёсцы Беларус. І не мог ён не закахацца ў прыўкрасную Беларуску. А яна? Яна яго не кахала. І не таму, што злыдня нейкая была. А проста неабавязкова ж адразу здараецца каханне. Не ўва ўсіх жа каханне з першага позірку, пагатоў у казках. За каханне сапраўдны Беларус і пазмагацца можа. А калі больш правільна сказаць — не пазмагацца не можа.

І Беларуска паводле ўсіх казачных правілаў выпрабоўвала Беларуса. І тое ёй прынясі, і гэтае распавядзі, і вецер злаві, і ваду выпусці. І прыносіў ёй Беларус першыя пралескі, і распавядаў незвычайныя гісторыі, і рабіў ветракі, і выпускаў на волю крыніцы. А каханне Беларускі не прачыналася.

Нарэшце захацелася Беларусцы, каб Беларус зрабіў так, каб камяні блішчэлі, як сонейка, і звінелі, як кветкі званочкі. Дала Беларуска гэтае заданне Беларусу і зразумела, што ніколі яго болей не пабачыць, бо немагчыма такое нават Беларусу зрабіць. І адначасова зразумела, што жыць без Беларуса не можа. Але нічога ўжо не паробіш — трэба было раней разумець.

А Беларус зразумеў, што яго не жадаюць бачыць. Бо што ні рабі з сапраўднымі беларускімі камянямі, блішчэць, як сонейка, не будуць і звінець не стануць. Яны ж не нейкія там каштоўныя, на любую апрацоўку згодныя.

І вырашыў Беларус зрабіць Беларусцы развітальны падарунак. Ён выкаваў жалезныя шарыкі са шрацінкай унутры, з крыжападобнай прораззю, у канцах якой знаходзяцца маленькія круглыя адтуліны, і «вушкам» уверсе. Выкаваў, каб Беларуска магла ўпрыгожваць сваё адзенне шархунамі, якія пазвоньвалі б пры кожным кроку дзяўчыны і ахоўвалі б яе ад злых сілаў.

Толькі пачула Беларуска шархуны, нікуды болей Беларуса не адпусціла. І распавядала пасля, што гэта было каханне з першага гуку.

Як казалася ў пачатку, канец у гэтай гісторыі, як і ў большасці казак — вяселле. А вясельны поезд на гэтым вяселлі быў з 99 коней, запрэжаных у тройкі. І на кожным кані — дванаццаць шархуноў. Звінела гэтае вяселле на ўсю Беларусь і за межамі было чуваць.

І так палюбіліся ўсім шархуны, што сталі іх з любоўю называць і бразгучкі, бразгуны, бразгаўкі, і шалгуны, шалканы, і шорхі, шымры, шумкі, шалестуны, і бомы. Вось такія яны розныя і адзіныя. Як і каханне.

* * *

Шархуны,
Нібыта коні,
Ды незацугляныя.
І звіняць
Навокал гоні —
Бомы ж
Не гліняныя.

Называюць іх
Шчэ шумкі,
Шалканы шумлівыя
Беларусы,
Чые думкі
Дбайныя,
Руплівыя.

Папрацуюць добра,
Потым
Шархуны ахоўныя
Возьмуць ў рукі,
Стукнуць ботам —
Скокі ў нас —
Шыкоўныя.

Інфармацыя для вундэркіндаў: Шархуны робяць таксама з медзі, бронзы, латуні. Існуе некалькі тыпаў старажытных шархуноў: грушападобныя з крыжападобнай прораззю, шарападобныя з такой жа прораззю і шарападобныя гладкія.

Пытанне для маленькіх разумнікаў: Без якога майстра немагчыма было вырабіць шархуны?



## Адказы на пытанні

АКАРЫНА. Бо на руках у чалавека дзесяць пальцаў.

БАСЭТЛЯ. У басэтлі і скрыпкі чатыры струны і гук здабываецца смыкам.

БАРАБАН. Турэцкі барабан мае значна большыя магчымасці, бо можна чаргаваць розныя ўдары: калатушкі аб мембрану, большую талерку, талеркі аб талерку альбо адначасова па мембране і талерцы.

БЕРАСЦЯНКА. У залежнасці ад вышэйзгаданага афарбоўка гуку змяняецца ад звонкай да глухой.

БРАЗГОТКА. Так, можна.

БУБЕН. Гучанне бубна залежыць ад таго, чым б’е па ім музыка, і ад месца, па якім б’е.

ВАРГАН. У варгана і аргана ёсць толькі моўная сувязь: у аргана няма літары «в».

ВУГОЛЬНІК. Ударна-рытмічную функцыю.

ВУСНАВЫ ГАРМОНІК. У звычайным гармоніку для здабывання музыкі не выкарыстоўваюцца вусны.

ГАРМОНІК. Вуснавы гармонік.

ГУСЛІ. У паэме «Курган» Янкі Купалы.

ДУДА. Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

ДУДКА. Паводле назвы дудка бліжэй за ўсё да дуды.

ЖАЛЕЙКА. Янкі Купалы.

ЗВАНОК. Бубна.

КАПЫТЦА. Для дасягнення гукаў рознай вышыні.

КЛАРНЕТ. «Клара ў Карла скрала каралі, Карл у Клары скраў кларнет».

КЛЯКОТКІ. Вострае і сухое.

КЛЯШЧОТКІ. Вясёлыя.

ЛЕРА. Кола.

МАНДАЛІНА. У Італіі.

ПІШЧЫК. Пішчаць.

РАГУЛЬКА. Рагатку.

РОГ. З рагоў каровы і барана.

СВІСЦЁЛКА. Так, свісцёлка заўжды выкарыстоўвалася як дзіцячая цацка.

СКРЫПКА. Нікола Паганіні.

ТАЛЕРКІ. У турэцкім барабане.

ТРАШЧОТКА. Трашчотка з металічным язычком болей «траскучая».

ТРУБА. Так, яна склікала войска, давала сігнал пачынаць бітву і г. д.

ЦЫМБАЛКІ. Бо яны складаюцца з брусочкаў, якія рабіліся са смалістай хвоі.

ЦЫМБАЛЫ. Францыск Скарына.

ШАРХУНЫ. Без каваля.

Малішэўскі, Я.
М19 Незвычайная энцыклапедыя беларускіх народных інструментаў : для мал. і сярэд. шк. узросту / Яраш Малішэўскі, Аксана Спрынчан ; маст. Вераніка Шніп. — Мінск : Маст. літ., 2010. – 102 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1166-8.

Упершыню кніга пра беларускія народныя інструменты створана ў выглядзе энцыклапедыі. Арыгінальная форма падачы кожнага інструмента дапаможа дзецям з цікавасцю і жаданнем увайсці ў свет беларускай музыкі. Аўтары — музыка, гісторык, калекцыянер музычных інструментаў Яраш Малішэўскі і пісьменніца Аксана Спрынчан — у кожным з 32 інструментаў пабачылі своеасаблівую душу і часцінку той краіны, для якой яны сталі блізкімі.

Энцыклапедыя прызначана для ўсіх тых, хто грае, спявае, слухае і, вядома ж, чытае.

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)

